PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 10 (1869) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 8 САКАВІКА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*Войшкаўская цэркаўка з боку званіцы.*

## У ВОЙШКАХ НЕ ЧАКАЮЦЬ ДАПАМОГІ АПУСЦІЎШЫ РУКІ

Пра разбудову цэркаўкі ў Войшках пісаў у „Ніве" ад 2 верасня мінулага года Ян Максімюк. Пабудаваную ў 1865 годзе каплічку (за грошы графа Міхаіла Мураўёва), жыхары вёскі ў 1980-81 г.г. разбудавалі ў невялікую цэркаўку. У мінулым годзе пачалі дабудоўваць яшчэ прытвор, са званіцай над ім.

Калі я наведаў Войшкі ў студзені, пабудова была ўжо амаль закончана, заставалася толькі ўставіць дзверы і правесці электрычнасць (якія 25 метраў ад найбліжэйшага слупа).

Царкоўны староста Рыгор Сергяюк падкрэслівае самаахвярнасць людзей, якія не паскупілі ні на грошы, ні на працу. Войшкаўцы добраахвотна аблажыліся падаткамі на званіцу. Вядома, не ўсе далі пароўну, але што зробіш, кожны даў, колькі мог. Жанчыны два гады калядавалі, збіралі ўсё на гэту званіцу. А працы ніхто і не лічыць.

Другая вялікая інвестыцыя ў Войшках у апошнія гады гэта водаправод. Гаворка пра тое, што трэба яго пракласці, была ўжо ў пачатку 80-тых гадоў. Але працы ў гміне Юхновец пачаліся толькі ў 1989 годзе. Ды і то, каб давесці ваду да Войшкаў, не хапіла грошай.

— Рабочыя сабраліся і паехалі, — расказвае старшыня вясковага камітэта пабудовы водапravода Ян Бручко, — а нам што засталося рабіць? Сабралі людзей, прадстаўнік улад сказаў, што як вёска выканае грамадскім пачынам усе працы, тады вада ў Войшках будзе, калі не, дык не. Склікалі мы камітэт, паехалі ў Беласток, а там планы ўжо памяняліся. Аказваецца, у Войшкі ўжо і не думаюць цягнуць таго няшчаснага водапровода. Ледзь мы адкруцілі ўсё назад. Вялікія абавязацельствы ўзялі на сябе: пабудавалі станцыю помпаў, кіламетрамі капаліся ў зямлі. Адзін толькі майстар-прафесіянал кіраваў працамі, а так усё рабілі самі войшкаўцы.

Калі ўжо будынак станцыі помпаў быў амаль гатовы, аказалася, што стаіць ён якраз там, дзе ў будучыні праляжа аўтастрада. З пытаннем, што далей рабіць, трэба было ехаць аж у Варшаву (пачын толькі каля станцыі помпаў быў расцэнены на 200 мільёнаў злотых). Там вырашылі, што аўтастрада, калі ўжо будзе, дык абміне пабудаваны войшкаўцамі аб'ект.

— Але нашым клопатам, здавалася, не будзе канца, — працягвае Ян Бручко, — то грошы ўпалі, то майстроў нам не хапала, каб пакіраваць работай. Усё ж такі, нягледзячы на розныя праблемы, праніхалі мы справу наперад. Памагала нам гміна. Два дні іхнія трактары вывозілі гліну, нарэшце падсобілі грашыма. І так яксьці, супольнымі сіламі — дзяржава: планы і грошы, мы: праца — давялі ваду ў Войшкі. Як гэта важная справа на сённяшні дзень, нікога, бадай, пераконваць не трэба.

Жыхары Войшкаў так заправіліся ў грамадскіх пачынах, што ўжо ні на што гатовае не разлічваюць. Калі толькі самастойна могуць прыспешыць выкананне нейкай справы, бяруцца за яе. Так было і з тэлефонамі. Хаця заплацілі па 5 мільёнаў за тое, што ў вёску давядуць тэлефоны, разам з жыхарамі суседніх вёсак пракладалі 40 кіламетраў тэлефоннага кабеля, каб хутчэй гэта сфіналізаваць. Калі я быў у Войшках, усё ўжо было зроблена, нават апараты людзі пакупілялі, толькі пошта нешта марудзіла з іх падключэннем.

Ян Бручко гаворыць, што ў вёсцы многа чаго зроблена самастойна жыхарамі і пачынае лічыць: „Паўстанак і паварот для аўтобуса, школа, святліца, басейны для пажарнай аховы, дарогі людзі самі рамантуюць. Войт напамінаў пра газапровод. Каб ужо ўзяліся яго пракладаць, нягледзячы на ўсю валтузню з водаправодам, я гатовы ўзяцца зноў за працу. І грошай не пашкадаваў бы на такую справу, як газ", — кажа Ян Бручко.

Ян Бручко абсталяваўся ўжо быў у Беластоку, пражыў там 12 гадоў. Назад у Войшкі вярнуліся з жонкай у 1982 годзе, пабудавалі тут варштат для рамонту аўтамашын. У мінулым годзе

( Працяг на стар. 8 )

## ЯК ДАЮЦЬ РАДЫ Ў ГМІНАХ

Самаўрадавая рэформа ў краіне надзяляе ўладай і самастойнасцю найніжэйшыя адзінкі тэрытарыяльнай адміністрацыі — гміны. Хаця сама ідэя самаўрадавасці зразумелая і ніякіх сумненняў тут быць не можа, то аднак яе рэалізацыя ў паасобных гмінах звязана найчасцей з разнастайнымі ў сваёй важкасці праблемамі. Адны з іх маюць агульны характар, іншыя ж вырашаюцца адной сесіяй гміннай рады.

**Рыгор Мацкевіч (войт гміны Чыжы):** Тэрыторыя гміны Чыжы налічвае 13 420 гектараў — мае яна сельскагаспадарчы характар. Я сам працую тут ад ліпеня 1975 года. Трэба сказаць, што наступае хуткі пераход



*Рыгор Мацкевіч.*

насельніцтва ў гарады — у першы перыяд маёй працы насельніцтва гміны паменшылася з 5 300 да 3 600. У гэты самы час перастала існаваць каля 600 гаспадарак. Маладыя не хочуць заставацца на вёсцы ды ўтрымліваць гаспадаркі сваіх бацькоў. Вырашае пра гэта нерэнтабельнасць сельскагаспадарчай прадукцыі — метр жыта каштуе прыблізна 40 тысяч, а за тону штучных угнаенняў трэба заплаціць паўтара мільёна, дык пра што тут і казаць. Гаспадары дамагаюцца мінімальных цэнаў на сваю прадукцыю. Зараз у маёй гміне ёсць такія гаспадары, якія маюць па 50-100 тон збожжа, але прадаваць жыта па 40 тысяч — смеху вартае. Гэта, аднак, агульныя для ўсёй краіны праблемы. На сесіях гміннай рады даводзіцца разглядаць, як здавалася б, больш банальныя пытанні.

На адной з такіх сесій разглядалі мы прашэнне гайнаўскай службы здароўя ў дафінансаванні дзейнасці вясковых

( Працяг на стар. 4 )

## НА МЯЖЫ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ
**Частка VI**

### АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Гаворачы аб характары актуальнага стану беларускіх веравызнанняў і падкрэсліваючы пэўныя зрухі ў бок нацыяналізацыі ў Праваслаўнай царкве, нельга прамаўчаць і таго добрага, што ўжо на працягу многіх гадоў выступае ў Каталіцкім касцёле на Беларусі. Маю на ўвазе ксяндза Уладзіслава Чарняўскага з Вішнева ў Валожынскім раёне. Уладзіслаў Чарняўскі выводзіцца з той слаўнай плеяды ксяндзоў, якія ўжо ў даваенны перыяд звязалі свой лёс з ідэяй рэлігійнага служэння беларускаму народу, карыстаючыся яго мовай. Належалі да гэтай плеяды ксяндзы Сваяк (Канстанцін Стаповіч), Гадлеўскі, Германовіч, Гарошка, Журня і іншыя. Польскі епіскапат, які ў даваенны перыяд цвёрдай рукой трымаў каталіцкае духавенства на Беларусі, лічачы яго фарпостам польскай мовы і польскай свядомасці, як толькі мог ускладняў жыццё ксяндзоў-беларусаў. Дайшло да таго, што многіх з іх выслаў з роднай Беларусі аж у кітайскі Харбін. На тых, хто застаўся пры жыцці, накінуліся савецкія ўлады пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР, пасылаючы іх у лагеры. Ксёндз Германовіч перажыў лагер і пакінуў цікавыя ўспаміны аб сваіх жыццёвых перыпетыях і муках. Цікава, што аўтар, нягледзячы на страшэнныя ўмовы жыцця, праследаванні і фізічнае знявoленне, ніколі не паддаўся, не дазволіў знявoліць сваю душу. Захаваў ён аптымізм, хрысціянскую пакору, малапатрабавальнасць у адносінах да жыцця, веру ў справядлівасць, гарачую прывязанасць да Беларусі, да яе мовы і культуры.

Усё тут сказанае адносіцца, несумненна, і да Уладзіслава Чарняўскага. Я некалькі гадоў таму назад спецыяльна паехаў у Вішнева, каб пабачыцца з гэтым слаўным чалавекам.

Пасля яшчэ раз выпадкова сустрэў яго ў вядомым Беларускім цэнтры ў Лондане. Пазнаваў я яго і на падставе таго, што ён пісаў польскаму епіскапату, рымскаму папу, парыжскай „Культуры", якая некалькі разоў нападала на яго за тое, што асмеліўся, будучы сынам беларускага народа, служыць яго мове і яго культуры. Стойкі характар Чарняўскага праявіўся і ў тым, што ён ужо на працягу многіх гадоў перакладае на беларускую мову „Біблію". З гэтым фактам быў звязаны адзін невясёлы эпізод у маім жыцці.

Каля чатырох гадоў таму назад, калі ў СССР і на яго межах панавала вялікая суровасць, я рызыкнуў —вырашыў выканаць просьбу ксяндза Чарняўскага. Узяў ад яго машынапіс перакладу „Біблії" з намерам перадаць машынапіс у лонданскі Беларускі цэнтр.Іншага афіцыйнага спосабу перадачы „Біблії" не было, бо тады трактавалася яна ў СССР як вельмі небяспечны, грозны для сістэмы „тавар". На мяжы ў Брэсце тамажніца знайшла машынапіс у маім чамадане, вывела мяне з усім багажом у памяшканне багажнай і там перадала ў рукі маёра КДБ. Божа мой, больш чым дзве гадзіны маёр з капітанам рыліся ў маім багажы і асабліва ў сшытках з перакладамі „Біблії". Мусіў я некалькі разоў дакладна расказаць сваю біяграфію. Маёр некалькі разоў паўтарыў: „Ну что ж, придётся вам у нас задержаться для полного расследования дела". Урэшце, аднак, пусціў мяне разам з перакладам „Біблії" на адну мінуту перад адпраўкай поезда. Не ведаю, чым я крануў маёра, але на адыходным сказаў ён мне: „Я тоже полесский белорус". Мабыць, быў гэта не рэзультат майго ўплыву, а толькі ўздзеянне ксяндза Уладзіслава Чарняўскага, які сваёй тытанічнай працай над „Бібліяй" крануў сэрца кадэбіста і выкрасаў з яго беларускую іскру. Дзякую Вам, Уладзіслаў Чарняўскі, Вам, носьбіту беларушчыны, які, нягледзячы на варожасць „усяго свету", гераічна служыць Беларусі і яе народу.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

*************************************************************************************

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**1 сакавіка закончыўся агляд „Беларуская песня '92".** У фінальных элімінацыях прыняло ўдзел 42 выканаўцаў, якіх ацэньвала міжнароднае журы ў складзе: **Андрэй Бандарэнка** — кампазітар з Гародні, **а. Юры Шурбак** з Варшавы і Ежы Сьрудкоўскі з Беластока. Гала-канцэрты сваёй прысутнасцю ўдастоілі архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава**, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь **Пётр Краўчанка**, віцэ-міністры культуры Польшчы — **Міхал Ягелла** і Беларусі — **Уладзімір Рылатка**, а таксама прадстаўнікі ваяводскіх улад і паслы ў Сейм. У гэты дзень міністр П. Краўчанка сустрэўся з Беластоцкім ваяводам **Станіславам Пруцісам.**

**2 сакавіка прабываў з афіцыйным візітам у Польшчы міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка.** У Варшаве міністр П. Краўчанка правёў размовы з кіраўнікамі дзяржавы і падпісаў, супольна з міністрам **Кшыштофам Скубішэўскім**, пагадненне аб устанаўленні дыпламатычных адносін і консульскую канвенцыю. Вечарам у Беластоку П. Краўчанка сустрэўся з прадстаўнікамі беларускіх асяроддзяў, а на другі дзень наведаў Супрасльскі манастыр.

Намеснікі міністраў культуры Польшчы — **Міхал Ягелла** і Беларусі — **Уладзімір Рылатка** сустрэліся 27 лютага ў Менску. Заявілі яны, што Польшча і Беларусь рыхтуюцца да падпісання двухбаковага пагаднення па далейшаму супрацоўніцтву ў галіне культуры. Праўдападобна, пагадненне будзе заключана ў сакавіку. Ужо стала вядома, што неўзабаве ў Менску адбудзецца выстаўка мастацкіх працЛёніка Тарасэвіча, а польская тэатральная група будзе ўдзельнічаць, па просьбе Беларусі, у народным фестывалі „Балтыйскія тэатральныя спатканні". Будзе таксама наладжана супрацоўніцтва паміж мастацкімі вучэльнямі, бібліятэкамі і арганізатарамі фестываляў духоўнай музыкі. Замест фестывалю польскай песні ў Віцебску будзе адбывацца фестываль еўрапейскай песні народаў-суседзяў.

Мітрапаліт Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы з Таронта **Мікалай** прыбыў па запрашэнню БНФ „Адраджэнне" з візітам у Менск. На працягу двух тыдняў мітрапаліт Мікалай пазнаёміўся з чарнобыльскай праблемай, пачаў дыялог з Беларускай Праваслаўнай Царквой, пазнаёміўся з грамадска-палітычнай сітуацыяй і рэальным жыццём сённяшняй Беларусі.

**Сабор епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы" прыхіліўся да просьбы БГКТ у справе дапамогі Беларускаму музею і вырашыў у нядзелю 22 сакавіка г.г.** правесці ва ўсіх праваслаўных храмах у Польшчы збор грошай на ўспамажэнне пабудовы музея ў Гайнаўцы.

**Наведаць Украіну грамадзяне Польшчы змогуць толькі пры наяўнасці ўкраінскай візы.** Міністэрства замежных спраў Украіны паведаміла, што чужаземцам ужо выдаюцца ўязныя візы тэрмінам на сем дзён прама на пагранічных пераходах з Расіяй, Беларуссю, Польшчай, Венгрыяй, Чэха-Славакіяй, Румыніяй, а таксама ў аэрапортах Кіева, Львова, Ялты і Сімферопаля. Пры неабходнасці іх можна будзе прадоўжваць на месцы знаходжання. Спецыяльнае запрашэнне ў госці ад жыхароў Украіны для гэтага не патрабуецца. Дастаткова ўнесці дадатковую плату ў канверсуемай валюце.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ЛЁД ЗРУШЫЎСЯ, СПАДАРЫ ПАРЛАМЕНТАРЫІ

Пасля бурных дэбатаў Цэнтральная камісія па правядзенню рэферэндуму Рэспублікі Беларусь усё ж прыняла рашэнне аб рэгістрацыі пытання, якое выносіцца на рэферэндум.

Дакладная фармулёўка пытання такая: „Ці лічыце вы неабходным правядзенне восенню 1992 года выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на аснове Закона „Аб выбарах народных дэпутатаў Беларусі" і ў сувязі з гэтым датэрміновы роспуск дзеючага цяпер Вярхоўнага Савета?"

Ініцыятыўная група, у склад якой уваходзіць больш за 1200 чалавек — прадстаўнікоў усіх партый Беларусі, акрамя камуністычнай, ужо пачала збор подпісаў. Нагадаю, што для правядзення рэферэндуму ім неабходна сабраць не менш 350 тысячаў подпісаў.

### ПРЭЗІДЭНТЫ ЗБІРАЮЦЦА І РАЗ'ЯЗДЖАЮЦЦА, А ПРАБЛЕМЫ ЗАСТАЮЦЦА

Днямі ў Менску ў будынку былога Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі адбылася сустрэча кіраўнікоў дзяржаў СНД.

На думку Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, нарада была на дзіва плённая, у выніку было прынята каля 20 дакументаў.

Зрэшты, самая небяспечная — вайсковая праблема так і не была вырашана канчаткова. Украіна, Малдова і Азербайджан не падтрымалі прапанову аб адзіных на тэрыторыі Садружнасці ўзброеных сілах, і заявілі аб намеры мець свае нацыянальныя войскі.

Не вельмі зразумелая і пазіцыя кіраўніцтва Беларусі. У ліку „адшчапенцаў" — трох дзяржаў, якія жадаюць мець уласныя войскі, афіцыйна наша рэспубліка не фігуравала. Аднак, спадар Шушкевіч пад час прэс-канферэнцыі недвухсэнсоўна заявіў, што ў Беларусі будзе сваё войска. Больш таго, згодна з Дэкларацыяй аб суверэнітэце, Беларусь — нейтральная дзяржава, а значыць, не павінна ўваходзіць ні ў якія ваенныя супolкі.

Што ж, магчыма чарговая сустрэча прэзідэнтаў 11 рэспублік былога СССР, якая адбудзецца 20 сакавіка ў Кіеве, дасць канкрэтны адказ на вайсковае, ды і на іншыя надзённыя пытанні.

### ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ ВЯРТАЕЦЦА НА БЕЛАРУСЬ

Міхась Белямук, наш зямляк з амерыканскага горада Кліўленда, днямі наведаў Менскі Святадухаўскі кафедральны сабор і падарыў праваслаўнай царкве Беларусі срэбны абраз Ефрасінні Полацкай.

Між іншым, гэта адзін з пяцідзесяці абразаў, створаных на сродкі Міхася Белямука вядомым майстрам Паўлам Вінчам.

### ЦІ АПРАЎДАЮЦЬ МІНІСТРЫ ДАВЕР ГРАМАДЫ?

Выканкам Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады вырашыў наладзіць супрацоўніцтва з найбольш уплывовымі ў рэспубліцы міністрамі, якія маюць давер у БСДГ. Сваімі „кансультантамі" грамадоўцы хацелі б мець у прыватнасці Старшыню Камітэта дзяржбяспекі Эдуарда Шыркоўскага, Генеральнага пракурора рэспублікі Мікалая Ігнатовіча, міністраў замежных і ўнутраных спраў Пятра Краўчанку і Уладзіміра Ягорава. Ці далі згоду на супрацоўніцтва з Грамадою гэтыя высокапастаўленыя асобы Беларусі, пакуль невядома.

### НЯМА ТАГО, ШТО РАНЕЙ БЫЛО

На прадпрыемствах Беларусі пачаўся сыравінны „голад". Першымі яго не вытрымалі магутныя „Гомсельмаш" і „БелАЗ" — прадпрыемствы, якія выпускаюць сельскагаспадарчую тэхніку і вялікагрузныя аўтамабілі. З-за недахопу сыравіны і камплектуючых дэталяў кіраўніцтва гэтых заводаў адправіла рабочых у адпачынак.

Такая ж бязрадасная перспектыва і ў трактарабудаўнікоў Беларусі, а таксама ў вытворцаў абутку, тканіны, электроннай і вылічальнай тэхнікі.

Таму, калі ў бліжэйшы час беларускія прадпрыемствы і ўрад рэспублікі не знойдуць агульную мову з украінскімі і расейскімі партнёрамі, наша індустрыяльная рэспубліка апынецца ў глыбокай крызіснай яме.

### „ПОКЛІЧ" У ГІСТОРЫЮ

У Менску, у знакамітым Траецкім прадмесці, нядаўна распачаў працу Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Цікавыя экспанаты былі прадстаўлены тут на выставе „Покліч". Наведвальнікі змаглі пазнаёміцца з некаторымі гістарычнымі дакументамі Беларускай народнай рэспублікі, літаратурных аб'яднанняў „Узвышша", „Маладняк", „Полымя", БелАПП. Многія з гэтых матэрыялаў яшчэ зусім нядаўна былі забаронены і захоўваліся ў спецыяльных архівах.

### АД КУПОНА ДА ТАЛЕРА — АДЗІН КРОК

Магчыма, 1 мая гэтага года на Беларусі будуць уведзены ў абарачэнне шматразовыя купоны. Калі ўрад рэспублікі і сапраўды адважыцца на такі крок, то рублю на Беларусі застанецца жыць нядоўга. Глядзіш, услед за шматразовым купонам з'явіцца і беларускі талер.

### САВЕЦКАЯ ЎЛАДА КАШУ ЗВАРЫЛА, САВЕЦКАЯ ЎЛАДА КАШУ ДЗЯЛІЛА...

Згодна з інфармацыяй Камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Рэспублікі, на Беларусі прыватызавана пакуль 19 дзяржаўных прадпрыемстваў, агульнай ацэначнай вартасцю 337 мільёнаў 800 тысяч рублёў.

Дарэчы, у ліку гэтых капіталістычных „першапраходцаў" — 15 пераўтвораны ў калектыўныя (народныя), 3 — у акцыянерныя таварыствы і толькі 1 прыватызавана на конкурснай аснове.

І яшчэ. У сакавіку, нарэшце, павінна вызначыцца долевая частка прыватызацыйнага фонду кожнага жыхара Беларусі. З улікам інфляцыі яна складзе 20-30 тысяч рублёў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Трыумф беларускай песні ў Беластоку.
- Як будуецца Беларускі музей.
- Помнікі культуры—царкаўка ў Козліках.
- Змаганне за гімнастычную залу ў Белавежы.
- Канферэнцыя на тэму нацыянальных канфліктаў.

 

16 лютага г.г. „Белавежа" правяла свой чарговы літаратурны семінар. Такія сустрэчы, прысвечаныя дыскусіі над новымі кнігамі „белавежцаў", сталіся добрай традыцыяй Літаратурнага аб'яднання. Арганізуюцца спатканні тым больш вартасныя, што грунтуюцца яны на ажыleўнай у апошнія два-тры гады выдавецкай дзейнасці, дзякуючы якой у хуткім часе паявілася ў Польшчы шмат беларускамоўных кніг. Гэтая эдытарская дынаміка звязана перш за ўсё са стварэннем — па ініцыятыве ЯНА ЧЫКВІНА — Бібліятэчкі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", якую ён дбайна і кампетэнтна рэдагуе. У гэтай серыі Бібліятэчкі ўжо паявіліся такія паэтычныя кнігі, як „Сезон у белых пейзажах"Надзеі Артымовіч і „Над днём пахіляна" Зосі Сачко, якія — апрача іх літаратурных вартасцяў — прынеслі іх аўтаркам больш вымерную карысць. Менавіта тыя зборнікі далі падставу прыняць Надзею Артымовіч ды Зосю Сачко ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў. Кваліфі-кацыйная камісія Галоўнага праўлення СПП падкрэсліла добры ўзровень твораў, а рэцэнзенты высока аценілі наогул творчасць двух беларускіх паэтэс, у паэзіі якіх закранаюцца найістотныя маральныя праблемы чалавека нашага часу, яго ўнутранае разладдзе ды неспакоі.

Дык вось на чарговым літаратурным семінары „белавежцы" віншавалі Надзею Артымовіч (Зося Сачко не прысутнічала) з прыняццем у Саюз польскіх пісьменнікаў. Прызнанне яе творчасці гэта таксама поспех усяго Літаратурнага аб'яднання, адна з форм яго набілітацыі і, што варта падкрэсліць, не толькі ў беластоцкім асяроддзі. Удзельнікі семінара віншавалі і Яна Чыквіна, старшыню Аб'яднання, з 35-годдзем яго літаратурнай працы.

Усё радаснае хутка, аднак, мінае і таму трэба было перайсці да наступнага пункта сустрэчы — агляду творчых дасягненняў Юркі Баены і Янкі Целушэцкага. Ю. Баена выдаў у прыгожай графічнай шаце кніжку вершаў „Лісты блакітных успамінаў", а Я. Целушэцкі — зборнічак лірычных мініяцюр, напісаных прозаю, — „Імгненні". Абедзве кнігі выйшлі па-за серыяю Бібліятэчкі „Белавежы": „Імгненні" аўтар выдаў за свой кошт, а „Лісты блакітных успамінаў" сфінансаваў Аляксандр Лашук з Лондана. Гэты якраз факт варта адзначыць таму, што ён сведчыць і аб прабойнасці нашых аўтараў, якія, нягледзячы на перашкоды, увайшлі на чытацкі рынак, але і аб ахвярнасці земляка з Лондана, які пайшоў насустрач індывідуальнай выдавецкай ініцыятыве. Названыя кнігі Ю. Баены і Я. Целушэцкага па-свойму пашыраюць пошукі беларускамоўнай літаратуры ў Польшчы.

„Імгненні" выклікалі зацікаўленне з боку моваведа сп. Алены Таболіч.

**Літаратурны семінар „Белавежы"**




Паэтычную прозу Я. Целушэцкага яна прааналізавала з пункту гледжання фанетыкі і стылістыкі. Гаварыла яна таксама аб харастве ды багацці аўтарскай мовы, цікавай вобразнасці, аб сугестыўнасці гэтых мініяцюр, жывапісных і насычаных гукамі. Многія звярнулі ўвагу на трапнасць загалоўка зборніка — як жаданне аўтара перадаць імгненнасць нашых хвілін праз нейкую дэталь, падрабязнасць пейзажу, раптоўную асацыяцыю памяці. Родныя краявіды і „месцы сэрцу знаёмыя" — гаварылася — выконваюць ролю крыніцы творчай інспірацыі ды з'яўляюцца першапланавымі элементамі, арганізуючымі свет уяўленняў аўтара „Імгненняў".

З такіх жа крыніц выплывае паэтычная творчасць Ю. Баены. Аўтар зборніка „Лісты блакітных успамінаў" прыпомніў прысутным свой першы верш „Дом", апублікаваны на старонках „Нівы" ў 1973 годзе, і расказаў пра доўгую ды нялёгкую дарогу да гэтай сваёй першай кніжнай публікацыі.

Ю. Баена, настаўнік геаграфіі ў Бельскай пачатковай школе н-р 3, піша звыш дваццаці гадоў і, як сам сцвердзіў, „лічыць сябе не столькі нядзельным паэтам, як паэтам сезонным". Да гэтага часу ён друкаваў свае творы на старонках „Нівы", у Беларускіх календарах ды альманахах. Будзе нізка яго вершаў і ў альманаху „Гасцінец" (КАВ, Беласток), падрыхтаваны Г. Валкавыцкім, які прыхільна выказваўся яго паэтычных спробах Ю. Баены, падкрэсліваў па-свойму апрацаваную паэтам патрыятычную тэму.

Ішла гаворка таксама і аб недахопах гэтых абодвух дэбютанцкіх зборнікаў, што як бы само сабой разумеецца, хоць — як сцвярджалася — ад многіх хібаў можна было пазбавіцца, аддаючы заранёў машынапісы мерытарычнаму рэдактару. Але хоць гэтыя агрэхі і відочныя не толькі спецыялісту, усё ж такі яны не перакрэсліваюць іншых вартасцяў кніжак ні Ю. Баены, ні Я. Целушэцкага.

Наступны літаратурны семінар, які запланаваны на 15 сакавіка, у 11 гадзін дня ў тым жа будынку ( па вул. Лінярскага 4, пакой 42) прысвечаны будзе новай кнізе Я. Чыквіна „Кругавая чара". На красавік прадбачваецца сустрэча з творчасцю Петруся Макаля, госця з Менска. У месяцы маі хочам, па традыцыі, арганізаваць двухдзённы выязны семінар (Muzeum Rolnictwa im. K. Kluka w CIECHANOWCU), на якім мае прысутнічаць знакаміты польскі пісьменнік Тадэуш Канвіцкі. Ён не аднойчы вельмі цёпла выказваўся пра Беларусь і беларусаў.

**ТЭРЭСА ЗАНЕЎСКАЯ**

# З ДРУКУ

**ПОЛЬСКАЕ САЛА З ... СІМПОЗІУМА**

„Жыгулі" з прыцэпам, за рулём якіх быў рэжысёр-аніматар Віктар Доўнар, цераз граніцу прапусцілі без затрымкі, бо кінематаграфіст вёз з вёскі Чыжы, што ў Беластоцкім ваяводстве, прадукты для калег (ветэранаў, мнагадзетных сем'яў, маці-адзіночак). Дапамогу ў выглядзе мукі, цукру, макаронаў, сала сабралі прыхаджане праваслаўнай царквы Прачыстай Прасвятой Багародзіцы ў Чыжах на чале з айцом Іванам Раманчуком. Подпіс бацюшкі і пячатка ў момант адкрывалі пагранічныя шлагбаўмы.

Але ездзіў Віктар Доўнар у Польшчу з другой нагоды. Разам з мастаком-графікам Аляксандрам Лосем ён удзельнічаў у міжнародным сімпозіуме „Творчасць народаў памежжа". Сімпозіум у Любліне арганізаваў польскі этнограф Ян Бернард са сваёй памочніцай Монікай. Сродкаў не было, але ідэя настолькі захапіла Яна, што ён здолеў зацікавіць спонсараў. Адгукнуліся этнографы Літвы, Расіі, Украіны, Беларусі, Польшчы. І калі ўнутры СНД назіраецца этнічнае раз'яднанне, дык, паводле слоў беларускіх удзельнікаў сімпозіума, тут, наадварот, панавала атмасфера яднання.

**Алла Бабкова**
**Прэс-цэнтр Саюза кінематаграфістаў Беларусі**
*(„Звязда", н-р 34 ад 18 лютага 1992 г.)*




*Святы благаверны князь Андрэй Смаленскі — пераяслаўскі цудатворац.*

Святы благаверны князь Андрэй пасля смерці бацькі атрымаў, разам са сваімі братамі, Смаленскае княства. Бачачы змаганне між братамі за ўладу, ён тайком у 1360 годзе пераехаў са Смаленска ў Пераяслаў Залескі, дзе стаў прыслужнікам у царкве св. Мікалая. Там князь Андрэй пражыў 30 гадоў. Ніхто не ведаў ягонага паходжання (княжацкага роду). Толькі пасля смерці (27 кастрычніка 1390 года), калі знайшлі пры ім княжацкі ланцужок і пярсцёнак, выявілася, што ён быў смаленскім князем. Цела святога з пашанай было перанесена ў грабніцу, якая знаходзілася ў Святамікалаеўскай царкве. Пасля пахавання ў доме благавернага Андрэя быў знойдзены запіс: „Аз есмь Андрей, един от смаленских князей. Завісти ради и крамолы от братий моих оставил княжение мое і дом і пр".

Грабніца святога Андрэя стала месцам, куды прыходзілі свецкія і духоўныя. Людзі нейкім цудам пачалі пры ёй выздараўліваць. Выяву благавернага князя пачалі малявaць (пісаць) на іконах. Падрыхтаваны яму акафісты і малітвы. У 1539 годзе па волі Божай прападдобны Даніла Пераяслаўскі пачаў ушаноўваць астанкі святога як мошчы, пры якіх адбываліся цудоўныя здарэнні. Аднак, толькі ў 1749 годзе благаверны князь Андрэй быў кананізаваны. Упэўненасць у святасці князя Андрэя наступіла пасля таго, як з пажарышча драўлянай царквы св. Мікалая астаўся толькі абраз благавернага і ікона Маці Божай, якая стаяла побач ракі. У адбудаванай царкве св. Мікалая далей адбывалася выздараўленне людзей пры мошчах святога. Праваслаўная Царква пачала ўшаноўваць дзень смерці благавернага Андрэя — 27 кастрычніка — як дзень яго памяці.

**Антось Мірановіч**

# *Пра нашых пісалі*

ЛІТАРАТУРНЫЯ ПРЭЗЕНТАЦЫІ

Пад такім загалоўкам вядомы ў польскай культуры паэт і літаратурны крытык Анджэй К. Васькевіч апублікаваў у часопісе „WYBRZEŻE" (nr 49/1991), пад шыльдай „Mniejszości" кароткі, але ж надта вымоўны на польскім фоне агляд літаратурных дасягненняў нацыянальных меншасцяў у Польшчы: нямецкай, яўрэйскай, расейскай, беларускай, украінскай ды лэмкаўскай.

Вось што аўтар піса ў пра нас:

„Odmiennie niż w okresie międzywojennym, na plan pierwszy wysunęła się, licząca około 200-300 tysięcy osób, mniejszość białoruska. Jedyna — obok litewskiej — pozostała w swych starych skupiskach. Zdołała wytworzyć własną instytucję literacką — Białoruskie Stowarzyszenie Literackie „Białowieża", działającą najpierw przy ZG Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, potem jako organizacja autonomiczna. Jeśli pominąć druki na łamach „Niwy", pierwszą publikacją literacką był almanach „Ruń", wydany w roku 1959. Prezentował on utwory siedemnastu autorów. Pierwszą samodzielną książką zaś był zbiór wierszy Alesia Barskiego „Bieławieżskija matywy" (1962). Dziś jest to zbiór kilkudziesięciu książek-almanachów, tomików wierszy, powieści. Szczególność tego środowiska polega także na tym, iż jego autorzy funkcjonują nie tylko w swym „naturalnym" kręgu odbiorców, tj. wśród rodaków, mieszkających w Polsce, ale także na Białorusi, w zachodniej diasporze białoruskiej i wśród odbiorców polskojęzycznych. Znaczy to, że ich głos wyróżnia się na tle literatury białoruskojęzycznej i — z drugiej strony — czytelnikom polskim prezentuje odmienne spojrzenie na znane skądinąd sprawy. To przede wszystkim przypadek Sokrata Janowicza, którego proza, wyraziście osadzona w realiach białostockich, na trwale weszła do czytelniczego kanonu, publicystyka zaś (zwłaszcza „Białoruś, Białoruś" i liczne teksty publikowane w prasie polskiej) rozpala polemiczne namiętności.

Otóż to. Literatura mniejszości narodowych jest nie tylko formą samowiedzy tych środowisk, umożliwia głębszą identyfikację, ale nacji dominującej pozwala spojrzeć na wspólne sprawy z innej perspektywy.

Z natury rzeczy publicystyka te sprawy artykułuje wprost, literatura, poezja zwłaszcza, przepuszcza przez filtr osobowości i doznań indywidualnych. Z tego punktu widzenia nie jest bez znaczenia, czy teksty te funkcjonują tylko wewnątrz grup narodowych, czy też znane są w przekładach. Oprócz Janowicza, najszerzej chyba znanym pisarzem białoruskim jest Jan Czykwin. W przekładzie na język polski ukazały się dwa zbiory jego wierszy, w lokalnych wydawnictwach białostockich wyszły przekłady wierszy Nadziei Artymowicz, Ireny Borowik, Michała Szachowicza...

Jest to — co ważne — środowisko w miarę kompletne. Oprócz poetów, są prozaicy, autorzy dramatów, publicyści, krytycy i naukowcy. Do lat dziewięćdziesiątych było to jedyne skupisko mniejszościowe, które zdołało wytworzyć własną infrastrukturę kulturalną".



 

# ЯК ДАЮЦЬ РАДЫ Ў ГМІНАХ

( Працяг са стар. 1 )

асяродкаў — Гайнаўка „прапанавала" скасаванне вясковага асяродка здароўя ў Кленіках. Мы не дапусцілі да гэтага — управа гмінная рады сцвердзіла, што гміна зможа ў ста працэнтах фінансаваць дзейнасць асяродка ў першым квартале, далей падумаем. На гэтай самай сесіі ўзніклі таксама праблемы транспарту дзяцей і гэтак званых нулявых класаў — мы іх поўнасцю вырашылі.

На найбліжэйшых сесіях гміннай рады зоймемся цаною цэнтнера жыта як падставы для падатку. Атрымалі мы таксама прашэнне гайнаўскай прафесійнай пажарнай стражы ў дафінансаванні іхняй дзейнасці. З гэтымі пажарнікамі дзіўная справа — хочуць, каб мы іх фінансавалі, але гарантыі, што прыедуць гасіць нейкі пажар у нас, не даюць аніякай.

**Ян Тапалянскі (войт гміны Нарва):** Справа службы здароўя — яна не з простых. Пакуль што нідзе не сказана, якім чынам служба здароўя мае перайсці пад гмінную самаўрадавую адміністрацыю. Іншая справа з ветэрынарыяй — яна цалкавіта ў нашай кампетэнцыі (штаты, будынкі). Гмінная лячэбніца жывёлы прыносіць прыбытак ды паспяхова канкуруе з прыватнымі лячэбніцамі. Можа, скажу, як мы вырашылі справу школьніцтва.

Вядома, што ўсе школы маюць перайсці пад гмінную адміністрацыю. Мы як адна з дзвюх гмінаў узялі школы на свой кашалёк ужо ў пачатку 1991 года (другая гміна Вышкі — А.М.). У той час не было яснасці, як мае выглядаць фінансаванне школьніцтва — трэба было кіравацца інтуіцыяй. Калі гміна возьме пад сябе такі каласальны апарат як школьніцтва, дык на ўтрыманне яго пойдзе сама менш палова гміннага бюджэту — дзяржава мусіць даплаціць, няма выйсця. Інтуіцыя аказалася слушнай. Цяпер „самаўрадавае" школьніцтва ў нашай гміне аказалася ў лепшай сітуацыі, чым школы, падпарадкаваныя куратарыі асветы і выхавання. Гміна плаціць настаўнікам ды разам з імі мае выключны ўплыў на кадрава-асветную палітыку, куратарыя тут ужо ні пры чым — яна можа ў крайнім выпадку прысылаць візітатара, каб праверыць, ці наша „самаўрадавае" школьніцтва не пагражае дзяржаўным інтарэсам краіны. Ёсць тут яснасць — мы даем грошы школам і мы іхні гаспадар. Гэтай элементарнай яснасці няма ў справе службы здароўя. Міністэрства хоча, каб гміна давала грошы на асяродкі здароўя, але ўплыву на размеркаванне іх не павінна ўжо мець. Такога быць не можа.

Служба здароўя запалохвае нас, што пазачыняе вясковыя асяродкі, калі не атрымае ад нас дафінансавання. Дапусцім, што служба здароўя атрымлівае ад нас гэтыя грошы — ну, і што... пойдуць яны недзе ў Гайнаўку і там загінуць, а для гміны аніякай карысці. Усё гэта выглядае як нейкі нелегальны падатак на час, бо ж служба здароўя фінансуецца дзяржаўным бюджэтам, з раз ужо заплачаных намі падаткаў.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**



*Ян Тапалянскі.*

# ШТО І ЧАМУ?

**26 студзеня** II Кангрэс Беларускага дэмакратычнага аб'яднання выбраў новыя ўлады. У Галоўную раду БДА ўвайшлі: Лёнік Тарасэвіч, Аляксандр Максімюк, Юры Каліна, Яўген Вапа, Яўген Міраковіч, Валянцін Сельвясюк, Мікола Ваўранюк, Славамір Іванюк, Юрка Раманюк, Віктар Стахвюк і Пятро Юшчук. У Галоўнай рэвізійнай камісіі: Яўген Альховік, Багдан Сіманенка, а ўзначаліў яе Пятро Германюк (старшыня).

Кангрэс вырашыў не выбіраць каардынатара Краёвай управы. Абазначае гэта, што адзіным дзейным органам БДА другой кадэнцыі з'яўляецца Галоўная рада, а практычныя функцыі будуць выконваць створаныя ёю камісіі.

У аўторак, **11 лютага**, кіраўніцтва Беларускага дэмакратычнага аб'яднання сустрэлася з лідэрамі беластоцкай Дэмакратычнай уніі. Мэтай сустрэчы, ініцыяванай польскім бокам, было высвятленне магчымасцяў супрацоўніцтва абедзвюх партыяў. Ужо на пачатку прысутныя пагадзіліся са сцвярджэннем Яўгена Міраковіча, што перамовы трэба лічыць кантынуацыяй сустрэчаў з лета мінулага года. Дыскусія ў асноўным засяродзілася на пытаннях падрыхтоўкі да наступных камунальных выбараў, на прапанове БДА стварыць беларускую навуковую ўстанову і Дом беларускай культуры ў Беластоку ды падрыхтоўцы да прыезду ў Беласток Сеймавай камісіі нацыянальных меншасцяў. Пасол Дэмакратычнай уніі Ежы Капаня выказаў падтрымку беларускім прапановам і абяцаў спрыяць паспяховай іх рэалізацыі. Кіраўніцтва БДА і Дэмакратычнай

( Працяг на стар. 8 )



# З дзённікаў С. Яновіча

**22-06-1988 г.**

„Настуся-пані", апавяданнейка (пачаў 19-га, увечары). Пасля таго, як вярнуўся з Крынак, дзе наслухаўся пра дарогу жыцця цёткі, Танінай: падаў дождж, не было чаго рабіць ані дахаты ёй пайсці, і яна — цётка — чакаючы на зацішак, гаварыла і гаварыла. („Уночы прачнуся, спаць не магу, то ўсё сваё жыццё перадумаю ўжо каторы раз...").

„Хрысціянізацыя Русі і беларуская культура" („ЛіМ", 17-га). Пачаткі (рэцыдыў?) беларусізацыі царквы? Антось Міраковіч быў на гэтым калёквіуме. З энтузіязмам ён: беларуская мова прыйдзе ў беластоцкія цэрквы з Мінска!

Бяссонне. Калі падумаю, што Гогаля пахавалі жывым...

**23-06-1988 г.**

Заўтра — канферэнцыя „Белавежы". Ужо прыехалі: Аляксей Пяткевіч, Томас Бэрд, Барыс Сачанка, Серафім Андраюк, Уладзімір Казбярук (відаць, не будуць — Мальдзіс, Дынглі...). Звяртае ўвагу прадстаўнічая група з Мінска, пра з'яўленне якой ніхто дагэтуль не гаварыў. Рэзультат візіту партыйна-ўрадавай дэлегацыі БССР у Беластоцкім краі?

На сустрэчы (14.00) з імі ў ГП БГКТ. Дэкларацыя: „Белавежа" — інтэгральная частка беларускай літаратуры, як і беларуская культура Беласточчыны належыць да беларускай культуры наогул!

Ну, такое мы ўпершыню пачулі.

Ад Андраюка даведваюся, што „Самасей", урэшце, будзе выдадзены (запланаваны на 90-ты год). Пра маю скаргу на гэты конт у беларускі ЦК ён нічога не ведае.

„Мастацкая літаратура" хоча рэгулярна выдаваць творчасць „белавежцаў". Гэта ж проста цуд!

Гаварыў Сачанка. Акцэнтаваў суверэннасць Беларускай ССР. Настойліва аднаўленне беларускай мове грамадскай дамінанты. Раней або пазней Беларусь мусіць быць беларускай! І ўсё, створанае беларусамі ў свеце, будзе далучана, афіцыйна, да ейных здабыткаў.

Польская нацыянальная меншасць у БССР ужо атрымае падобныя магчымасці для свайго развіцця, як беларуская — у ПНР. Гэта ўмова акцэптацыі палякамі дапамогі нам з боку Мінска (у нейкім сэнсе ажывае ідэя Беларускага Дома з дваццатых гадоў).

— Прыхініце нас, беларусаў адсюль, бо мы хворыя сірочацю...

**27-06-1988 г.**

Канферэнцыя „Белавежы" (пятніца, субота). Свята Беларускай Культуры (нядзеля). Студэнцкае Купалле н/д Супраслам у Латышонкаў (з суботы на нядзелю, 25-га).

Амаль хворы я. А яшчэ — вечар з Кофманам, галоўным — „Крытыкі" (у доме Г. Міраковіча; былі Туронак і А. Латышонак). У пятніцу.

Змяняецца беларускі рух. Перасталі ў ім баяцца, выштурхоўваць мяне наперад, бы ў заслон. Вельмі змучыўся я, за столькі гадоў, гэтай сваёй роляй штурмавага танка.

Пяткевіч: — Ну і „залівае" Сачанка! Усё гэта далёка не так... Добра было б, але ці будзе? У вас тут, у Беластоку, параўнаўча больш беларускай дзейнасці, чым у нас, у БССР.

Улады ўсё робяць, каб замарудзіць аднаўленне беларускага духа. Зніштажаць яго ўжо не могуць, не тая эпоха.

На студэнцкім Купаллі мноства моладзі! Была і польская з Варшавы, і з таго клуба „Памосце" (меў я сустрэчу з імі пра сутнасць беларускага пачуцця). У сэнсе настрою адчуваўся недахоп-адсутнасць Тарасэвіча як іхнага лідэра (ён — у ЗША, вяртаецца 12 ліпеня). Юрка Ляшчынскі быў у Мінску. Прывёз адтуль нямала ўражанняў і... матэрыялаў (нефармалы з „Талакі", „Тутэйшых"). З'явіўся і той жа малады сацыяліст Казанэцкі са сваімі амерыканцамі (з Вісконсіна і з Чыкага); я прывёз А. Пяткевіча; чуваць было і пра іншых замежнікаў... Шум, гамана!

Мая бібліятэка ачышчана ўсякімі гасцямі з усяго непадцэнзурнага, пераважна савецкімі. Перадаваў я Яраславу, каб яшчэ давёз мне, але ён чамусьці не з'явіўся... Не ладзіць з Міколам?

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Аляксей Пяткевіч, Барыс Сачанка, Уладзімір Казбярук, Серафім Андраюк, — пісьменнікі і нацыянальныя дзеячы з падсавецкай Беларусі, Андраюк родам з Грэдалёў, што каля Бельска; Казбярук — зямляк Барскага;*

*— Томас Бэрд — беларусазнавец з Нью-Йорка;*

*— „Самасей" — загаловак маёй кніжкі, супроць выдання якой усяляк інтрыгавалі ў літаратурным асяроддзі тут і там; ажно сёлета, урэшце, будзе надрукавана, пасля адзінаццаці гадоў ад даты падпісання са мною выдавецкай дамовы ў 1981 г.;*

*— з Кофманам — Ян Кофман, польскі вучоны і выдавец падпольнага палітычнага часопіса „Крытыка" (цяпер легальнага); шукаў ён магчымасцяў пагаднення беларусаў з палякамі ў барацьбе супроць маскоўскага імперыялізму.*

 

# ЁЛКА Ў БГКТ

16 лютага г.г. у будынку ГП БГКТ адбылася ёлка для дзяцей працаўнікоў ГП і „Нівы", а таксама сімпатыкаў Таварыства.

Дзеці радасна танцавалі вакол святочна ўпрыгожанай ёлачкі, а разам з імі — прывёўшыя іх мамы і таты. Хаця была ўжо палова лютага, але прыемна было думкамі вярнуцца да Калядных свят.

Вялі дзіцячыя забавы вопытныя выхавацелькі, якія самі запрапанавалі дапамогу, калі на апошняй дыскатэцы штатная працаўніца ГП БГКТ Марыя Паўлючук спытала, ці не змог бы хтосьці весці ёлку для дзяцей. Вядома, на гэта ніякіх грошай няма, усё трэба рабіць сваімі сіламі, у грамадскім пачыне.

Наш вядомы паэт Віктар Швед зрабіў дзецям неспадзеўку і прыняў запрашэнне на гэту ёлку. Дэкламаваў — вельмі выразна і паволі — свае вершы для дзяцей. На жаль! — патрэбны быў „перакладчык". У гэтай ролі выступіў найбольш адважны — Канрадак Паўлючук, які тлумачыў папольску тое, што гаварыў паэт пабеларуску. Аднак многія разумелі ўсё і без перакладчыка.



*Быў і пачастунак.*

Пасля арганізатары зрабілі дзецям пачастунак, але што там пачастунак! Выпіўшы нейкі сок, крыху нешта ўкусіўшы, ды згарнуўшы рэшту з сабою, дзеці ізноў кінуліся да забавы.

Былі вельмі цікавыя конкурсы. Як, напрыклад, накарміць з завязанымі вачыма сябру? А двое ж стаяць насупраць і кормяць адзін другога (вобмацкам!) тварагом. Або як тут знайсці маму сярод многіх мам, калі табе завязалі вочы?! Адны знаходзілі маму па матэрыяле сукенкі, другія — па пацерках. Смеху было ўдосталь!

Усе дзеці з нецярплівасцю чакалі „пачак". Ї вось у дзвярах паказаўся з посахам у руках, у чырвоным плюшовым паліто, святы Мікалай (колішні Дзед Мароз). Але падарункаў так адразу не аддаваў. На падарунак трэба было зарабіць. Можна было заспяваць песеньку, сказаць вершык. Але найцяжэй было прайсці ў святога Мікалая „экзамен", бо пытанні былі няраз клапатлівыя, асабліва для бацькоў: „Чаму ты адзін?", „Скажы малітву!" і т.п. Пяцігадоваму Марыюшку Лубе трапілася пытанне даволі лёгкае: „Колькі табе гадоў?", дык малы, падняўшы галаву, упэўнена сказаў: „Дзесяць!" Ї такім чынам усе дзеці здалі „экзамены" і атрымалі багатыя падарункі.

А пасля былі выбары „каралевы" балю, ізноў забава і танцы. Было весела.

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*Накармілі адзін другога...*



*І як тут знайсці сваю маму?*



*Сумная каралева балю.*



*Цяжка прайсці іспыты ў святога Мікалая.*



 

# СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ Ў БЕЛЬСКУ

У нядзелю, 23 лютага бягучага года Бельскі дом культуры жыў беларускай песняй. З'ехаліся сюды ўдзельнікі раённага агляду, прыйшлі слухачы. У вялізнай зале не засталося вольнага месца. Людзі стаялі нават у дзвярах.

Было што паслухаць! Шмат было цудоўных нашых лірычных і вясёлых песень, і зусім невядомых. Ї ані адна песня не паўтаралася! Усе калектывы, тэрцэты, дуэты і салісты выступілі цудоўна. У іх багаты рэпертуар. Спявалі яны вельмі прыгожа. Выходзілі на сцэну калектывы з Бельска (два), Орлі і Краснага Сяла, а таксама — па-за конкурсам — ансамбль „Медуніца" з Ашмян, што на Гродзеншчыне ў Рэспубліцы Беларусь.

Беларусы любяць спяваць. У іх я бачыў энтузіязм і радасць з удзелу ў свяце песні. Відаць, песня дапамагае нам жыць, гуртуе людзей, дадае сілы ў цяжкія зараз умовы будзённага жыцця. Кожны з выканаўцаў уносіў у канцэрт нешта непаўторнае, свое асаблівае.

Жаночы калектыў з Краснага Сяла сэрцам знайшоў залацінкі колішняга народнага мастацтва, мясцовы фальклор з глыбіні нашай беларускай спадчыны. Вельмі мілагучна праспяваў песні „Прасіла Манюля свайго баценька" і „Там на гары жыта".

У іншым, гуллівым стылі спявала бельская „Маланка". Гэты калектыў падрыхтаваў на конкурс вельмі цікавыя, прыгожыя песні „Ой пад мостам" і „Ехаў Ясь на кані". Выклікалі яны захапленне ў гледачоў. Ну й галасы! Варта адзначыць, што кіраўніком „Маланкі" з'яўляецца Сяргей Лукашук. Ён жа і дырэктар Бельскага дома культуры.

Жаночая група „Маланкі" спявала песні „А я чарнява" і „Ой коцяцца два яблычкі". Сола выступіла Лідзія Маліноўская з песнямі „Гаю мой не кліч" і „Выйду на вуліцу", а таксама спявала яна яшчэ ў дуэце з Багуславай Карчэўскай — „Пах чабаровы" і


*Выступае калектыў „Медуніца" з Ашмян, што на Беларусі.*


*Хор з Орлі.*


*Хор „Красуні" з Краснага Сяла.*


*Салістка Лідзія Маліноўская з Бельска-Падляшскага.*

# Дзеля долараў

**2.**

ЗША ўсё яшчэ з'яўляюцца цэнтрам прыцягнення эканамічнай эміграцыі з Усходняй Еўропы ды шматлікіх краін Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі. Працэс гэты працягваецца нягледзячы на тое, што перыяд засялення і загаспадарання Новага Свету даўно ўжо мінуўся, і ў ЗША зрабілася цеснавата — у сэнсе эканамічнай прасторы. З усіх прычын, якія выклікаюць гэты асматычны рух з усходу на захад (і ў яшчэ большай ступені — з поўдня на захад), адна, на маю думку, выразна дамінуе — чалавечая праца цэніцца тут значна вышэй, чымсьці ў шмат якіх іншых краінах. Нават калі ты знаходзішся ў ЗША на найніжэйшай сацыяльнай ступеньцы — мыеш посуд у рэстаране альбо, скажам, прыбіраеш хату ў нейкага расейскага яўрэя, — дык усё роўна твой рэальны даход у некалькі разоў перавышае даход прафесара ў Польшчы ці нейкай іншай Балгарыі. Склалася нейк так, што так званы сацыяльны мінімум у ЗША (скажам, мераны вышынёй засілку для беспрацоўных амерыканцаў) у нашых усходнееўрапейскіх абставінах кваліфікуецца да заліку ў катэгорыю сярэдняй заможнасці (яшчэ раз тут падкрэслю, што маецца на ўвазе рэальнасць гэткага мінімуму ў ЗША, гэта значыць, набытую сілу таго ж засілку на амерыканскім рынку тавараў і паслуг). Ён жа, пералічаны па ўсходнееўрапейскіх курсах долара і прыраўнаны да тых жа эканамічных абставінаў кансумпцыі, выглядае яшчэ больш імпазантна.

Інакш кажучы, з перспектывы Амерыкі відаць выразна тое, што ва Усходняй Еўропе (калі ты пражыў тамака ўсе свае найлепшыя гады) здаецца замазаным альбо расплывістым — камунізм як палітычна-ідэалагічная і эканамічная фармацыя мусіў сысці з арэны з увагі на сваю эканамічную непасільнасць. Усё іншае мела другараднае значэнне. Можна сказаць нават так (рызыкуючы нейкае палітычнае блюзнерства): антыдэмакратычны дзяржаўны лад здольны існаваць так доўга, як доўга ён у змозе запэўніць свайму грамадству матэрыяльны дабрабыт (дэмакратыя, усё ж такі, гэта патрэба нешматлікіх, большасць хоча мець поўную міску і „сьвенты спокуй", I'm sorry). Дык вось, камунізм, без увагі на пэўныя сацыяльныя дасягненні (бясплатная адукацыя і служба здароўя), схібіў у адным — ва ўтрыманні таго ўзроўню эканамічнай забяспечанасці, якая так званаму сярэдняму чалавеку дае пачуццё свае, так бы мовіць, біялагічнае вартасці. І гэта, у рэшце рэшт, ёсць трыумф законаў прыроды над ідэалогіяй.

Але звернемся да так званых рэаліяў, да жыццёвых спраў у Амерыцы, сузіраных з пункту погляду ўсходнееўрапейскага розуму, які спрабуе на амерыканскім грунце знайсці нейкі кампраміс між сваёй прыроджанай прыкметай матэрыяльнай непатрабавальнасці і напрацаванай амерыканцамі формай „цывілізацыі празмернасці".

Як ухапіць крыху граша ў Амерыцы, каб пажыць сабе, як чалавек?

Скажу тут адразу, што я са статусам стыпендыста, ад якога патрабуецца кніжка пра нейкі адрэзак у гісторыі беларускай палітычнай эміграцыі (1945-1950), з'яўляюся ў Нью-Йорку кімсьці накшталт „эканамічнага недарэкі", які знаходзіцца ўскрай магістральнага шляху схоплівання долараў, і як такі мусіць падпірацца жыццёвым досведам класічных „гастарбайтэраў". Сустрэў я ў Нью-Йорку і наваколлі некалькіх — маладых, што нядаўна паканчалі польскія вышэйшыя школы і вырашылі напачатак наскладаць сабе амерыканскага граша, каб потым лягчэй знайсці месца ў польскім капіталізме.

Зразумела, амаль 100 % польскіх „гастарбайтэраў" — гэта „турысты", значыць, людзі з адштэмпляванай у пашпарце турыстычнай візай (у большыні выпадкаў ужо няважнай, бо наогул чалавек застаецца ў ЗША даўжэй, чымсьці на год). Але пашпарт у амерыканскім жыцці непатрэбны, хіба што на самым пачатку. Потым

„Водар чаромхі" ды ў трыо: да дуэту дайшла яшчэ Аліна Ваўранюк — „Пажану волікі" і „Там за гаем". Усе спомненыя выканаўцы з калектыву „Маланка". Яны галасістыя, вясёлыя. Умеюць завалодаць публікай, павесці за сабою.

„Дзявочыя поткі" з бельскага белліцэя выступілі з песнямі „Ох і звонкія ў чэрвені конікі" ды „Белы луг". Іх мелодыі зачароўвалі слухачоў жыццярадаснасцю, весялосцю, рытмічнасцю.

Калектыў з Орлі спяваў „Вясельную" і „Сонца нізенька", а квартэт — „У зялёным садочку" і „Ой у полі пры даліне". Іх мелодыі ўражвалі. Выканаўцаў рыхтавалі да конкурсу інструктары Аляксандр Вадзім і Валеры Кручкоў.

Як і ў мінулыя гады, так і сёлета добра зарэкамендаваў сябе дуэт Яўгенія Барысюк і Юрка Селеванові́ч. Выканалі яны песні „А я маю чорны бровы" і „Хадзіў хлопец у чужы строны".

Журы ў складзе: Ежы Сьрудкоўскі з Беластока (старшыня), Аліна Негярэвіч з Бельска і Ян Барысенка з Ашмян (Рэспубліка Беларусь) высока ацаніў усіх выканаўцаў і раздзяліў паміж імі рэчавыя і грашовыя ўзнагароды. Варта дадаць, што сёлета спонсарамі былі: Аддзяленне страхавой кампаніі „Вэста" і Суполка



*Спявае „Маланка" з Бельска-Падляшскага.*

„Амега" з Бельска, а таксама войт гміны Орля.

У заканчэнне справаздачы хачу дадаць, што агляд быў добра арганізаваны. Увесь канцэрт праходзіў спраўна і цікава. Вялі яго дзве вучаніцы Бельскага беларускага ліцэя Марыя Аліфер і Анэта Гаўрылюк.

Тэкст і фота
**Янкі Целушэцкага**



*Танцуе „Маланка".*

прыняць удзел у аб'яўленым конкурсе і прад'явілі нам свае сямейныя архівы.

Арганізатары зацікаўлены здымкамі людзей — жыхароў вёсак і гарадоў, людзей розных прафесій незалежна ад грамадскай пазіцыі, фатаграфіямі іх дамоў, кватэр, сядзіб, прадметаў культу, здарэнняў. Цікавяць іх таксама здымкі грамадскіх арганізацый, таварыстваў, школ, культурных устаноў, адным словам усё, што тычыцца нацыянальных меншасцяў у Польшчы ад часоў узнікнення фатаграфіі, г.зн. ад паловы XIX ст. па сённяшні дзень.

На конкурс трэба даслаць арыгінальныя і дэталёва апісаныя на аддзельных картках здымкі. У апісанні трэба падаць дату і месца выканання здымка, прозвішчы

# ІНШЫЯ СЯРОД СВАІХ

Рэдакцыі тыднёвікаў „Polityka" і „Przekrój" і Аддзяленне Польскай акадэміі навук аб'явіла фатаграфічны конкурс пад назвай „Іншыя сярод сваіх".

Мэта конкурсу — паказаць шматнацыянальнае аблічча жыхароў сённяшняй Польшчы. Пасля II сусветнай вайны пераконвалі нас, што ў выніку ваеннага катаклізму і змены граніц, пасля Ялтанскага пагаднення, Польшча стала нацыянальна аднароднай краінай, а гэта няпраўда.

Аддзел I Польскай акадэміі навук і Палянійны інстытут Ягелонскага універсітэта арганізуюць у верасні г.г. супольную сесію, прысвечаную нацыянальным меншасцям, якія пражываюць на польскіх землях, іх супольнаму лёсу і ўзаемным абумоўленням у XX ст., імкненням да захавання ўласнай тоеснасці і ўплывання на лёсы краіны. Сесіі будзе спадарожнічаць фатаграфічная выстаўка.

Арганізатары звяртаюцца з заклікам да людзей і сем'яў, якія выводзяцца з беларускай, цыганскай, чэшскай, грэцкай, літоўскай, нямецкай, армянскай, рускай, славацкай, татарскай, украінскай, вянгерскай і яўрэйскай грамадскасцяў, а таксама да караімаў і лэмкаў, каб захацелі людзей, назвы аб'ектаў і здарэнняў увекавечаных на здымку. Арганізатары вельмі спадзяюцца на старыя, з XIX ст., здымкі, хаця і сённяшнія лічаць таксама важнымі.

Лепшыя здымкі або іх серыі будуць узнагароджаны. Абедзве рэдакцыі прызначылі на ўзнагароды па 3.000.000 злотых. Прадбачваюцца таксама і іншыя ўзнагароды і вылучэнні. Узнагароду атрымоўвае той, хто дасланў і апісаў здымак, а не яго аўтар.

Здымкі просім дасылаць на адрас:

— у Варшаве:
*Instytut Badań Literackich*
*Polska Akademia Nauk*
*Pałac Staszica,*
*Nowy Świat 72 p. 119*
*00-330 Warszawa*

— у Кракаве:
*Tygodnik „Przekrój"*
*ul. Reformacka 3*
*31-012 Kraków*

з прыпіскай „Inni wśród swoich".

Арганізатары чакаюць на здымкі да 31 сакавіка 1992 г. Найлепшыя з іх будуць экспанавацца ў Музеі незалежнасці ў Варшаве.

***

ягоную ролю выконвае амерыканскі дазвол на кіраванне аўтам, а ў атрыманні працы істотным з'яўляецца так званая картка сацыяльнага страхавання (social security) і дазвол на працу, некаторыя працадаўцы дамагаюцца ад працаўніка яшчэ „зялёнай карткі" — дазволу на сталы побыт у ЗША (хоць гэтае апошняе выступае надзвычай рэдка). У польскім квартале Нью-Йорка — Грынпойнце (дзе практычна можна пражыць усё жыццё, так і не адчуваючы патрэбы гаварыць па-англійску) — ёсць шмат агенцыяў, якія за акрэсленую аплату дапамагаюць знайсці працу ды таксама „абспраўляюць" усе патрэбныя табе карткі. Несумненна, бываюць выпадкі, калі хтосьці атрымлівае ўсе дакументы як след, выдадзеныя амерыканскімі ўладамі. Але гэта — выключэнне. Агульны накірунак — прадукцыя чыстай ліпы на аўтэнтычных бланках. Сацыяльнае страхаванне і дазвол на працу каштуюць каля 80 долараў (калі хочаш адно і другое адразу, калі асобна — плоціш болей, згодна з усімі правіламі амерыканскага стылю ў бізнесе). Ёсць магчымым „абсправіць" сабе і „зялёную картку", але цана тут ідзе ў некалькі тысяч.

Гэткая працэдура з'яўляецца нечым накшталт публічнай таямніцы. Ведаюць пра гэта і працадаўцы, у якіх працуюць „гастарбайтэры", але спецыяльна не намагаюцца правяраць аўтэнтычнасць тых картак. Бо сапраўдны амерыканец ніколі ў іх не стане працаваць за тыя стаўкі, якія яны прапануюць „турыстам". Ведае пра гэта і Федэральнае іміграцыйнае бюро, аднак жа ніякіх аблаваў на „гастарбайтэраў" не робіць. Справа ў тым, што лік нелегальных работнікаў у ЗША ідзе ў мільёны — нават калі б нейк арганізацыйна даць рады з дэпартацыяй гэтых людзей, дык наступствы гэткага кроку абярнуліся б для амерыканскай эканоміі сапраўдным катаклізмам. Гэткага вырашэння ніхто не хоча.

Бадай жа самым папулярным заняткам „сацыяльна застрахаваных" „гастарбайтэраў" з'яўляецца будаўніцтва. Амерыканцы безупынна нешта разбіраюць, стаўляюць, рамантуюць, перабудоўваюць. У вялікіх будаўнічых фірмах добра арганізаваныя прафсаюзы — тамака ўступу „гастарбайтэрам" няма. Але малыя фірмы (часам усяго некалькі чалавек) іх прымаюць. Малыя фірмы, зусім зразумела, абслугоўваюць малыя заказы. Дый дзейнічаюць у такіх кварталах, у якіх амерыканскі работнік працаваць не хоча (там, дзе наркотыкі, мафійныя бітвы ў белы дзень, частыя злачынствы). Напрыклад — верхні Мангатан (пачынаючы ад сотай вуліцы ўзвыш) ці Бронкс. З будаўлянымі працамі звязана адна своесаблівая „працэдура" якраз у вышэй успомненых наваколлях. Час ад часу ў рамантаваных дамах успыхваюць пажары. Уся работа ідзе да д'ябла, і праз нейкі час рамонт пачынаецца нанава. Механізм гэтых пажараў усім вядомы, але паліцыі ніяк не ўдаецца яго выкараніць. Уласнік рамантаванага дома пасля пажару зграбае страхоўку (якая перавышае нашмат кошт рамонту), дом пераходзіць на ўласнасць горада, а праз нейкі час за невялікі грош папярэдні ўласнік альбо ягоныя давераныя набываюць той дом, страхуюць яго зноў і пачынаюць рамонт. Да наступнага „нешчаслівага" пажару. Будаўнікі маюць занятак.

Жаночая частка замежнай „турыстыкі" наогул працуе „на плейсах" — гэтак у тутэшнім жаргоне называецца прыбіранне хаты ў заможнага амерыканца. Праца не такая лёгкая, як бы на першы погляд здавалася — амерыканцы наяўна даказваюць, што можна прыбіраць, скрабці і шараваць восем гадзін без упыну, і ўсё роўна належнай чысціні не дасягнуць. Вышэй у гэтай працоўнай іерархіі стаяць афіцыянткі ў рэстаранах, але зноў жа іхняя праца разбурае наша ўсходнееўрапейскае ўяўленне аб афіцыянтках. Галоўны іхні заробак складаюць напіўкі (tips), агульнапрынятая вышыня якіх раўняецца 12 % рахунку за абед. Напіўкі даюць усе, бо так ужо заведзена. Не ўсе, аднак, даюць столькі, колькі прынята, а наогул менш — і ў тым бяда (афіцыянтак). У кожным выпадку — каб зарабіць, то трэба набегацца. Сядзець афіцыянтцы нельга. Чортава мітусня.

**ЯН МАКСІМЮК**

# ШТО І ЧАМУ?

уніі падобныя кансультацыі вырашылі праводзіць і ў будучыні.

По ініцыятыве БДА, **12 лютага** ў Бельску-Падляшскім адбылося пасяджэнне Камісіі па справах кантактаў з асветнымі ўладамі пры Радзе беларускіх арганізацыяў. Камісія разгледзела пытанні, звязаныя з кваліфікацыяй выпускнікоў сярэдніх школ Беласточчыны, ахвотных вучыцца ў беларускіх вышэйшых навуковых установах. Камісія пазнаёмілася таксама з вынікамі перамоваў ейнага старшыні Віктара Стахвюка з куратарам Пётрам Літэрмусам наконт конкурсаў на дырэктараў школ у гмінах з беларускім насельніцтвам, у выніку якіх куратар прызнаў сябрам камісіі статут наглядальніка ў конкурсных камісіях. Сябры камісіі адобрылі таксама кандыдатуру Алега Латышонка на візітатара гэтых школ.

З прыкрасцю трэба, аднак, адзначыць факт, што рашэнні гэтага форума былі не да спадобы ўладам БГКТ. Неўзабаве высветлілася, што старшыня БГКТ ды некалькі яго працаўнікоў у час візіту ў куратара Пятра Літэрмуса заявілі, што ўсё гэта няважна, бо толькі БГКТ мае права прадстаўляць асветныя інтарэсы беларусаў Беласточчыны. Такім чынам атрыманне беларусамі, ці не, першага кампетэнтнага візітатара школаў, дзе вучацца іх дзеці, зацягваецца. Паўстае пытанне — дзеля якой мэты?

**12 лютага** ў памяшканні ГП БГКТ па вуліцы Варшаўскай 11 у Беластоку адбыўся ўстаноўчы сход Галоўнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.

Першым пунктам пасяджэння быў выбар намеснікаў старшыні, сакратара і скарбніка Галоўнай рады. Намеснікамі былі выбраныя Яўген Мірановіч і Віктар Стахвюк, сакратаром — Юрка Каліна, а скарбнікам — Юрка Раманюк.

У далейшым Галоўная рада абмяркоўвала пытанні, звязаныя з выдавецкай палітыкай Аб'яднання, зносінамі з польскімі партыямі і іншымі нацыянальнымі меншасцямі Рэчыпаспалітай, беларускім школьніцтвам, суарганізацыяй самаўрадавай канферэнцыі Польшча—Беларусь і іншае.

Чарговую сесію Галоўнай рады вырашана склікаць 7 сакавіка г.г. у памяшканні месячніка „Часопіс" (вул. Сураская 1, п.2).

**ЮРКА КАЛІНА**

# ЯКІМ БЫЦЬ ПРАВАПІСУ?

Маючы на мэце выяўленне думкі спецыялістаў і шырокай грамадскасці, камісія па ўдасканаленні правапісу Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны склала анкету па некаторых спрэчных пытаннях беларускай арфаграфіі. Анкета была надрукавана ў 6 нумары „Нашага слова" ад 12 лютага г.г.

Мы са свайго боку заахвочваем чытачоў таксама выказацца ў гэтай справе. Анкету можна атрымаць у нашай рэдакцыі.

# КАРОТКІ АБРЫС БЕЛАРУСКАГА ПЫТАННЯ

ПАДРЫХТАВАЎ АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

**З дакументаў Генеральнага штаба II Аддзела), Варшава 1928.**

— 57 —

Такога тыпу асцярожнасць беларусаў у адносінах да віленскіх урачыстасцей была прадаўжэннем лініі, якую вёў Палітычны камітэт у адносінах да віленскіх выбараў ды да ўсёй польскай палітыкі ад моманту далучэння б. Цэнтральнай Літвы да Польшчы.

Адносячыся да гэтага далучэння адмоўна, але пры гэтым пасылаючы сваіх дэлег таў да прадстаўнікоў польскага ўрада, беларусы свядома і мэтанакіравана імкнуліся падкрэсліць прызнанне новай улады. Такія інструкцыі атрымалі беларускія дэлегаты: Ярэміч — старшыня „Вільнацбелкома", Тарашкевіч — старшыня школьнай рады, Кахановіч — дырэктар беларускай гімназіі і Трэпка — член камітэта школьнай рады.

У часе прыёму дэлегацыі начальнікам дзяржавы прамаўляў толькі Тарашкевіч, сказаўшы, што калі Польшча возьме пад увагу культурна-нацыянальныя патрэбы беларускага жыцця, дык беларусы стануцца лаяльнымі ў адносінах да дзяржавы грамадзянамі.

На прыёме ў прэм'ер-міністра прамаўлялі: Ярэміч, Тарашкевіч і Трэпка. Ярэміч сцвердзіў, што польскі ўрад бярэ на сябе не толькі прывілеі, але і абавязкі, якія вынікаюць з прыналежнасці гэтай краіны да Польшчы, што беларускае насельніцтва, якое выконвае лаяльна абавязкі польскіх грамадзян, мае права дамагацца ад польскай дзяржавы задавальнення сваіх культурна-асветніцкіх і эканамічных патрэб.

Тарашкевіч гаварыў аб школьніцтве і высунуў наступныя пастулаты:

1. стварэнне пры Міністэрстве асветы спецыяльнай управы да беларускіх пытанняў,

2. прыдзел субсідыі для Беларускай гімназіі ў Вільні,

3. стварэнне настаўніцкай семінарыі,

4. ажыццяўленне сеткі беларускіх пачатковых школ,

Антон Трэпка гаварыў аб злоўжываннях адміністрацыі, якая сваёй неталерантнасцю ў нацыянальных і рэлігійных справах узбуджае на крэсах новы дысідэнтызм, які ўжо ў XVIII ст. у гісторыі Польшчы адыграў згубную ролю.

Прамовы беларусаў былі насычаны горыччу і бояззю, што беларуска-польскія адносіны не ўложацца згодна з пажаданнямі беларусаў.

Пасля выдалення з Вільні 4—5-га лютага 1922 г. некаторых членаў Беларускага народнага камітэта з яго старшынёй на чале, былі праведзены новыя выбары ў прэзідыум, у які ўвайшлі: Ярэміч, кс. Адам Станкевіч і Кахановіч.

У красавіку 1922 года была выбрана т.зв. Палітычная камісія камітэта, у якую апрача старшыні камітэта ўвайшлі: Тарашкевіч, Луцкевіч і Багдановіч — дырэктар праваслаўнай семінарыі.

Палітычная камісія мела праводзіць усю палітычную дзейнасць „Вільнацбелкома". Пасля падзелу функцый камісія атрымала ад камітэта для рэалізацыі наступныя справы:

1) апрацаваць формулу пераходу дзейнасці Беларускага народнага камітэта на грунце польскай дзяржаўнасці,

2) апрацаваць праграму выбарчай секцыі ў Варшаўскі Сейм.

У справе выбараў у Варшаўскі Сейм выбарчая дзейнасць камітэта мела на мэце агортванне як найшырэйшых мас. Для ўцягвання праваслаўных рускіх і беларусаў было пастаноўлена ўваходзіць у кантакт з праваслаўным духавенствам. Гэтым якраз тлумачыўся ўдзел у Палітычнай камісіі Багдановіча, які да гэтага не ўдзельнічаў у палітычным руху.

(Працяг будзе)

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілыя мае спадарынькі — верныя чытачкі і сааўтаркі гэтай рубрыкі! Сёння хачу вас усіх павіншаваць з жаночым святам, падзякаваць за супрацоўніцтва і пажадаць у далейшым такіх жа мілых суадносін і ўзаемадаверу.

Толькі з адной асобай не хачу больш мець нічога супольнага — з фікцыйнай „Валяй з Бельшчыны", якая — свядома ці несвядома? — падлажыла свінню нам, а напэўна свядома(!) — сваёй добрай знаёмай (мо суседцы нават) — Валянціне Ткачук з Грыгораўцаў, што сапраўды на Бельшчыне.

Ведала яна Валіна жыццё надта дакладна, з падрабязнасцямі і ад пачатку. Відаць, Валя перад ёй не таілася. Нахабна падшыўшыся пад Валіна імя і прозвішча, ды падаўшы яе адрас, фальшывая „Валя з Бельшчыны" („Ніва" н-р 6 (1865) ад 9.02.92 г.) апісала, як сапраўдная Валя выходзіла замуж, колькі нарадзіла дзяцей, як пахавала мужа і засталася ўдавой. Мо ўсё было б яшчэ не такое страшнае, калі б „добразычлівая" знаёмая не ўлезла да Валі ў пасцель. Занепакоіла яе, што ў Валі ёсць чалавек (які кахае яе, а яна яго!) і пачала распускаць свае брудныя інсінуацыі наконт гэтай пары.

І вось сапраўдная Валя прыехала са сваім знаёмым Васілём Брэнька са станцыі Грыгораўцы, не саромеючыся нічога, да нас у рэдакцыю. Не маюць яны чаго саромецца! У нікога Валя не прасіла ніякай парады і не пісала ў „Ніву". Жыве — як лічыць за патрэбнае. Бяду сваю агорыла і знайшла ў сваім нялёгкім жыцці нейкую радасць. Каму гэта радасць пячэ, што пачаў насміхацца з яе?!

Бедны ты чалавек, фальшывая „Валя з Бельшчыны"! Няўжо ты толькі тады шчаслівая, калі іншым кепска?! Няма ўжо ў цябе іншых прычын для задавальнення? Ці ж ёсць хаця ў цябе яшчэ чалавек (лічу, што ты ўсё ж жанчына, мужчына мо не стаў бы сабе брудзіць рук такім пасквілем)? Бо паводле маіх меркаванняў, дык павінен быў цябе ўжо даўно кінуць. Калі ж яшчэ гэтага не зрабіў, дык пакажы яму гэтую „Ніву", бо я хачу яму нешта паўтарыць з усходняй мудрасці. Чалавеча! Бі ад часу да часу сваю жонку! Бі нават тады, калі не ведаеш, за што, — яна ўжо напэўна будзе ведаць! І ад сябе яшчэ дадам: надта пільнуй таго, што ясі: такая жонка можа і ў кашу нарабіць, ды пасля мужыку пад нос падсунуць, каб еў! Сцеражыся, браце!

**СЭРЦАЙКА**

*P.S. Фальшывая „Валя з Бельшчыны"! Ваша пісьмо мы перадалі аўтэнтычнай Валі, бо ж там і яе прозвішча, і адрас. Не ведаем, што яна з ім зробіць. Але пагаварылі з юрыстам. Кажа, што за знеслаўленне можа быць не толькі грыўна, але і год турмы.*

*С.*

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Я ўжо столькі табе сноў напісала і так трапна ты іх адгадаў, а цяпер яшчэ адзін сон хачу расказаць. А сон гэты сніўся маёй суседцы з блока, з якой мы ў вельмі добрых адносінах. Сніцца ёй, што яна на вёсцы, адкуль паходзіць. І там у нейкім доме жыве мой муж. Яна зайшла да яго. А муж кажа, што пры доме ёсць агародчык, ды занядбаны ён. Просіць яе, каб яна ўзяла граблі і ўпарадкавала яго. Так яна і зрабіла — узяла тыя граблі і пайшла. Агародчык сапраўды занядбаны — нейкае пустазелле расце, ды кавалкі гною валяюцца. Яна гэта ўсё старанна заграбла і ідзе сказаць аб гэтым майму мужу. Уваходзіць у хату, бачыць — ляжыць ён у белай, чыстай пасцелі, а сам апрануты ў белую кашулю і белыя кальсоны. Падыйшла яна да яго і кажа: „Суседзе, я ўжо агародчык прывяла ў парадак. А ён — нічога. Паўтарыла яшчэ раз — нічога. Тады падыйшла бліжэй да ложка, глядзіць, а ў яго вочы не варушацца. Падумала — памёр, пэўна. Страшна ёй зрабілася і выйшла хутка з хаты.

**Кацярына**

Кацярына! Сон тваёй суседкі вельмі цікавы і выразна датычыць твайго мужа. Што ж ён абазначае? Калі сніцца агародчык, можна было б спадзявацца здароўя, поспеху, спаўнення ўсіх пажаданняў. Аднак жа ў гэтым сне агародчык твайго мужа быў вельмі занядбаны, расло там пустазелле ды валяліся кавалкі гною. Значыцца, замест здароўя і поспеху з тваім мужам можа здарыцца нешта зусім адваротнае. Напэўна, гэта нейкая хвароба — ён ляжаў у белай пасцелі і ў белай бялізне. Тое, што ён, як здалося тваёй суседцы, быццам бы памёр, прадвяшчае яму небяспеку.

Надзею на лепшае дае тое, што суседка яго агародчык усё ж упарадкавала.

**АСТРОН**

# У ВОЙШКАХ НЕ ЧАКАЮЦЬ ДАПАМОГІ АПУСЦІУШЫ РУКІ

( Працяг са стар. 1 )

перанялі 20-гектаровую гаспадарку па бацьках, але не ўскладаюць на яе вялікіх спадзяванняў (хіба з гаспадаркі цяпер нажывеш што? — кажа Ян Бручко). Затое варштат дае цалкам прыстойныя даходы. У Бручкаў усе сельскагаспадарчыя машыны, уключна з камбайнам, аўта, пабудаваны вялікі дом, які цяпер канчаюць. У доме цэнтральнае ацяпленне, вада, тэлефон. Калі шчэ будзе газ, рэдка які гарадскі дом зможа з ім зраўняцца.

Ян Бручко, старшыня грамадскага камітэта пабудовы водапровода ў Войшках дзякуе тым, хто найбольш напрацаваўся пры яго пракладцы. А вось гэтыя асобы: Рыгор Данілюк, ЮрыВаўдзейчук, Яўген Врублеўскі, Мікалай Давідзюк, Ян Трафімюк, Рыгор Трафімюк, Рыгор Семянюк, Мікалай Семянюк і Віктар Сергяюк.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота**
**Аляксандра Максімюка**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

Тулкун Ільхманаў

### МАТУЛІНЫ РУКІ

Як прыйдзе вясна,
Гляне сонца з-за хмар, —
Сады зашчабечуць,
Ручай запяе.
Як возьме матуля
У рукі дутар —
Пачуе планета ўся
Песню яе.
Няхай жа не ведаюць стомы ніколі
Матуліны рукі
Ні дома,
Ні ў полі!

Вясновае сонца,
Нібы чарадзей,
Вырошчвае кветкі,
Каб руппа цвілі.
Матуліны рукі
Гадуюць дзяцей —
Надзею і радасць
Вясновай зямлі.
Няхай жа не ведаюць стомы ніколі
Матуліны рукі
Ні дома,
Ні ў полі!

Вясновы вятрыска
Падзьме ў вышыні,
Каб чыстай была
Васільковая шыр.
Працуюць матуліны рукі ўсе дні,
Каб мір быў на свеце,
Быў — мір!
Няхай жа не ведаюць стомы ніколі
Матуліны рукі
Ні ў доме,
Ні ў полі!

Спяшаецца весні ручай у сады —
Зямельку ўпрыгожыць,
Вадой напаіць.
Працуюць матуліны рукі заўжды,
Каб наша жыццё
Яшчэ лепшым зрабіць.
Няхай жа не ведаюць стомы ніколі
Матуліны рукі
Ні ў доме,
Ні ў полі.

Пераклаў
Мікола Чарняўскі







*Матуліны рукі.* **Фота В. Шніпа.**

Васіль Чухліб

## Калыханка для Мядзведзяў

КАЗКА

Цэлы дзень перабіраліся Мядзведзі ў новую хату. Тата з мамай пераносілі мэблю, посуд, а мядзведзік Клім-Клім — свае цацкі.

— Мы нічога не забыліся? — час ад часу прапытаў тата.

— Ды быццам усё ўзялі, — адказвала мама.

Калі нарэшце ўсе ўлягліся спаць, яна пажадала:

— Добрай ночы вам на новым месцы!

Але чамусьці нікому не спалася. Тата Мядзведзь круціўся на печы, крахтаў:

— Штосьці мне тут горача...

— Ды, можа, я пасцялю табе на падлозе? — прапанавала Мядзведзіха.

Але і там Мядзведзь не мог заснуць.

— Можа, адчыніць дзверы, каб трошкі павеяў ветрык?

Адчынілі дзверы і вокны, а сон не ішоў.

І Клім-Клім таксама варочаўся ў ложачку.

— Мама, падушка цвёрдая! — скардзіўся ён.

— Зараз я падаб'ю табе падушку. Ой, якая пухкая! Спі.

— Мама, нехта ў акно заглядвае!

Гэта месяц узышоў.

І доўга так варочаліся Мядзведзі з боку на бок, аж тут пачулася ад парога:

*—Мяне ніхто не бачыць,*
*Удзень не прыкмячае,*
*Але, калі цямнее,*
*Я ўсім патрэбны, знаю.*

— Ой, хто тут? — спужаўся Клім-Клім.

А Мядзведзь падхапіўся з падлогі.

— А вы пра мяне забыліся? Таму я сам прыйшоў. Пачакайце, зараз уладкуюся на новым месцы, — сказаў нехта, спяваючы.

І праз хвілінку з падпечча пачулася ціхая, быццам калыханка, песенька.

— Мама, тата, дык гэта ж Цвыркун з нашай старой хаты! — узрадаваўся Клім-Клім.

— Я ж пытаўся: ці нічога не забыліся? — дабрадушна прабурчаў Мядзведзь.

А Цвыркун усё цвыркаў — і памягчэла Клім-Клімава падушка, і прахладней стала Мядзведзю, і спакайней Медзвядзісе. Салодкі сон абвіў усю сям'ю.

Пераклаў
з украінскай мовы
Валеры Бабей

## Для самых маленькіх

Віктар Шніп

### НЕ ПЛАЧ

Анечка,
Не плач,
Цішэй.
Слёзкі выцеры хутчэй.
Бачыш,
Коцік наш не плача,
Па падлозе
З ранку скача.
Кліча Анечку
Гуляць —
Ён не любіць
Сумаваць.
Хоча коцік наш
Маленькі
Да дзяўчынкі
На каленкі.
Анечка, не плач,
Цішэй.
Слёзкі выцеры хутчэй
Не рукою,
А хусцінкай —
Ты ж
Вялікая
Дзяўчынка.



### КАЛЫХАНКА

Верабейчык,
Верабей,
Ты не стукай
Па акне.
Дам зярнятак я
Табе,
Хай сыночак мой
Засне.

Верабейчык,
Верабей,
Раніцою прылятай.
А цяпер
Ляці хутчэй
У гняздо,
Адпачывай.

Сон хай прыйдзе
Да цябе,
Бо заснуў
Сыночак мой.
Верабейчык,
Верабей,
Пасябруем
Мы з табой.





**СЯРОЖА ПЕТРЫКЕВІЧ —**

сямікласнік менскай СШ н-р 188. Мінулы год асабліва знамянальны быў для хлопчыка: ён загаварыў па-беларуску. А пачалося ўсё з ліста балгарскай жанчыны, якая ў адной з газет ушчувала беларусаў за тое, што яны адракліся ад роднай мовы.

Сярожа набраўся смеласці і... загаварыў па-беларуску. Маці абурылася, асабліва не даспадобы ёй прыйшлося слова „гарбата". Ды хлопец аказаўся ўпартым. У школе Сяргея падтрымала класны кіраўнік (яна выкладае родную мову і літаратуру). Аднакласнікі спярша аб'явілі Сярожу байкот, а пасля змірыліся.

На сённяшні дзень Сярожа Петрыкевіч адказвае на роднай мове на ўсіх уроках, акрамя біялогіі і, зразумела, рускай мовы і літаратуры.

**Фота М. ХАМЦА.**

# МАСЛЕНІЦА

Масленіца дайшла да нас з далёкіх часоў. У народзе яе ўспрымаюць як развітанне з зімою і пярэдадзень вясны: „Масленка — бела вутка, гаварыла, вясна будзе, ды ня хутка".



У сваіх вытоках Масленіца звязана з пакланеннем язычніцкаму боству — Вялесу (Воласу). Вялес лічыўся апекуном статка і наогул усялякай жывёлы, у тым ліку і дзікай; дапаможца пастухам,ён спрыяе земляробству і павелічэнню сям'і. Шчыра ставіўся да сваіх абавязкаў Улас, што заступіў на месца Вялеса пасля прыняцця хрысціянства. Дарэчы, на іконах святы Улас заўсёды ў акружэнні кароў, коней і авечак, як добры гаспадар і апякун. Супадаючы па часе з днём святога Уласа, Масленіца ў некаторых месцах так і звалася: „Валоссе". Яшчэ беларусы называлі так: „Улас — каровінае свята". Адна з асноўных рыс свята — падкрэсленае ўрачыстае ўшанаванне малочнай ежы і страў, прыгатаваных на малацэ. Масленка прыходзілася на перыяд, калі ў сялянскіх гаспадарках ішоў ацёл і акот свойскай жывёлы, статак папаўняўся маладняком, з'яўлялася „новае" малако, пасля доўгага перапынку пачыналі несціся куры. Усё было гатова для масленічных бліноў, пшанічных і аржаных, аўсяных і з грэцкай мукі, прыпяканых бульбай, тварогам і канаплямі.

Свята, вядома, сустракаюць тым, чым багаты.

Масленка прыжылася і ва ўмовах гарадскога жыцця. Моладзь скакала, каталася з горак на санках, „лядзянках" і „маразянках". Каталіся на „доўгі лён" і „доўгія каноплі". Каб горы не былі „лысымі", іх утыкалі елкамі. Маладзіцы і дзяўчаты біраліся ў лепшыя строі.

На Масленку добры гаспадар аб'ездзваў каня. Лічылася, што конь тады будзе здаровым і ненаравістым. У час Масленкі прысутнічала незвычайная весялосць, у хатах заставаліся толькі старэнькія бабулькі, што не маглі хадзіць. Людзі нібыта хацелі набрацца весялосці, смеху і радасці на ўвесь Вялікі пост, з усімі яго забаронамі.

У апошні дзень Масленкі палілі чучала, а попел раскідвалі на палі, каб яны сталі больш урадлівымі. Праводзячы Масленку па сутнасці, праводзілі зіму, развітваліся з голадам, холадам і хваробамі. Масленку, якая прыносіла „новае" малако, трохі лаялі, што яна „... абманшчыца, праляцела хутка, пасадзіўшы на Вялікі пост, на капусту белую і на рэдзьку горкую".

**А. РАЙКОВА**

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК І ПАН АБАДРАН

Аднойчы прачнулася мышка Пік-Пік ад таго, што ў сцяне нехта шкробся. Стукнула мышка ў сценку ножкай. А адтуль яшчэ гучней: „Шкроб — шкроб — шкроб!" Раззлавалася мышка, зусім прачнулася і бубніла кулачкамі па тым месцы, дзе шкраблося:

— А ну сціхніце! Дайце паспаць!

І тут у сцяне ўтварылася дзірка. З дзіркі пасыпалася раскрышаная тынкоўка і паказаўся доўгі белы нос з ружовым кончыкам. Нос нервова нюхаў паветра. Мышка спалохалася і адскочыла. А са сцяны вылез белы аблезлы пацук. У яго былі закручаныя ўверх вусы, маленькія чорныя вочкі і пакусаны хвост. Папук склаў лапкі на жываце і прымільным галаскам звярнуўся да мышкі:

— Дзень добры вельмішаноўнай найкраснай пані! Няхай пані даруе мне за візіт без абвешчання і гасцінцаў, але, жорсткім лёсам гнаны, прыйшоў на выратавальны стук. Удзячны вам пан Абадран-Белы.

Бедная Пік-Пік аж разгубілася. Ніколі так велягурыста з ёй не размаўлялі.

— Трэба паказаць добрае выхаванне, — вырашыла мышка і падсунула госцю корак ад бутэлькі: — Сядай ужо, калі прыйшоў.

Сеў пан Абадран на корак.

— Павінен заўважыць, дарагая пані, што ў падвале гэтага дома ў мяне вялікія маёнткі, і майно ў іх вялікае. Але сёння крыважэрны дзікі звер Мурзік захапіў мае ўладанні. Скочыў я шляхетна ў нейкую трубу, і, каб не пастукалі вы літасціва ў сценку, невядома, куды б я трапіў. А так маю гонар размаўляць з самай прыгожай мышкай на свеце.

Мышка Пік-Пік была, канечне, рада чуць кампліменты, але ёй усё больш не падабаўся доўгі ружовы нос пана Абадрана, які усё настойлівей паварочваўся ў той бок, дзе ляжалі мышкіны прыпасы. Нарэшце пан Абадран не вытрымаў:

— А можа пані будзе такая ласкавая, што пачастуе мяне гарбатай?

Задумалася мышка, аднак узяла маленькі пластмасавы кубачак, што раней належаў Веранічыным лялькам, адшкрэбла трохі варэння са сваёй коўдры, насыпала ў кубачак і паставіла перад панам Абадранам. А ў таго ад голаду і спакусных пахаў аж вочы загарэліся:

— Няўжо пані не ахвяруе беднаму выгнанцу кавалачак сала?

— Не! — цвёрда сказала мышка і ўпёрла лапкі ў бокі.

— Ну, хоць скурачку ад сала!

— Не!

— Ну хоць паню-у-ухаць!

Успомніла мышка пра шляхетныя манеры і, хаця без ахвоты, але пайшла ў запаветны куток, узяла кавалак сала, загорнуты ў газету, і хацела аднесці гэтую газету госцю. Але тут нахабны пацук адпіхнуў гаспадыню і ўчапіўся ў сала.

— Не дам! — завішчэла мышка Пік-Пік і схапіла пана Абадрана-Белага за хвост.

— Пусці, таўстуха, каб ты лопнула, скнарышча! — крычаў пан Абадран, спрабуючы ўцячы праз дзірку ў сцяне.

— Мяў, Пік-Пік, што тут у цябе робіцца? — пачуўся раптам голас коткі Пепіты.

— Кошка! — задрыжэў пан Абадран і выпусціў сала. — Як гэта невысакародна!

І ўцёк.

Мышка хутчэй падабрала свае дабро і адказала Пепіце:

— Між іншым, да мяне тут паны шляхетныя ходзяць!

— Ну, ну! — прамовіла Пепіта і пайшла. А мышка хутчэй пабегла ў Веранічкін пакойчык за пласцілінам і старанна замазала дзірку, праз якую прыходзіў да яе госць.

**Людміла Рублеўская**

# РАДЗІМА

Радзіма, мілая Радзіма,
У табе мой лёс і ўзлёт душы,
За тое, што мяне ўзрасціла,
Табе паклон мой да зямлі.
Твае лясы, бары, азёры,
Чаруюць ласкаю сваёй.
І для каханых шчасця мора
Хвалюе вольнасцю палёў.
Прасторы свету неабсяжны,
Але мілей чамусьці тут,
Дзе хата й двор у колькі сажняў
Забыць Радзіму не даюць.
І не забыць мне родны кут.
Сустрэчы шчасцю зноў дзіўлюся.
Каб гора пазабыць пакут,
Не раз яшчэ сюды вярнуся.

**Алёна Цвірко,**
**Баранавічы**



**А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А**

На якім малюнку партрэт немаўлятка?

# ВЕРСІІ ✺ КУР'ЁЗЫ ✺ СЕНСАЦЫІ

## РАЗВЕДЧЫКІ -ЗДРАДНІКІ

(працяг)

У нядзелю я сказаў Ліне, што мне неабходна паехаць у ААН, бо ў мяне там неадкладныя справы. У ААН было пуста. Я зайшоў у адзін з незамкнутых кабінетаў і набраў знаёмы нумар:

— У мяне пільная справа да Эндзі. Я хацеў бы спешна з ім сустрэцца.

У сваім аанаўскім кабінеце пачаў чытаць нядаўна атрыманыя пісьмы, але не разумеў іх сэнсу, не мог сканцэнтраваць сваю ўвагу. Калі ігра даіграна да канца, што я магу зрабіць, каб ўратаваць сям'ю? І я зноў думаў аб тым, як затрымаць Ліну, як выклікаць з Масквы Анну. Вось прыйшоў момант, якога я чакаў і баяўся. І ён прыйшоў... Я быў гэтым вельмі занепакоены. Неўзабаве зайшоў я сакрэтным праходам у кватэру ЦРУ. Тут мяне чакалі Боб і Карл. Я расказаў пра тэкст тэлеграмы.

— Думаю, што ўсё скончана. Я не магу больш чакаць, — сказаў я. — Мне прыйдзецца паведаміць, што я не магу тэрмінова прыехаць, паколькі Вальдхайм выехаў і я падрыхтоўваю спецыяльную сесію — у мяне поўна работы. Калі Масква згодзіцца крыху пачакаць, то не доўга. Мне патрэбная афіцыяльная згода вашага ўрада прыняць мяне.

На другі дзень я сустрэўся з даўнім сябрам, які быў членам савецкай дэлегацыі. Зайшлі ў кітайскі рэстаран. Падчас размовы я мімаходам даведаўся ад сябра, што ніякія кансультацыі з маім удзелам у Маскве не патрэбны. Так я і думаў: выклік у Маскву быў падманам. Пасля ланча я пазваніў з рэстарана амерыканцам і дамовіўся на чарговую сустрэчу.

Жонцы я сказаў, што выбіраюся на кансультацыі ў Маскву. Яна занялася пакупкамі. Уцешылася, што завязу падарункі сыновай і ўнуку, а таксама знаёмым. А я ведаў, што ўжо ніколі больш не пабачу Масквы, і мабыць, ніколі больш не буду з Лінай... або з дачкою Аннай... або з сынам Генадзем. Аб сваім рашэнні я не мог сказаць жонцы. Не ведаю, чым бы гэта закончылася. У дамашнім сейфе я паклаў ёй большую суму грошай.

У дамоўлены з амерыканцамі дзень пазваніў жонцы, што даўжэй затрымаюся на рабоце. Са свайго кабінета я забраў памятныя фоаздымкі, зробленыя ў Крамлі і ў ААН, з Брэжневым і з Грамыкам. Яшчэ паддаваўся я нерашучасці. Гэта было найгоршае.

Напісаў пісьмо жонцы... развітальнае. Прыпомніліся мне супольна перажытыя з ёю гады. Напісаў усю праўду пра сваё рашэнне, каб — калі Ліна надумаецца мяне кінуць — не падазравалі яе ў саўдзельніцтве. Калі я прыехаў дадому, жонка ўжо спала. Даходзіла поўнач. Узяў я з шафы падарожную сумку, паклаў у яе некалькі кашуляў, бялізну і шкарпэткі. Рабіў гэта ўсё ў трансе. На пальцах падышоў да спальні. Цераз прыадчыненыя дзверы апошні раз глянуў на спячую жонку, перасунуў канверт і выйшаў.

Па другім баку вуліцы стаяў белы самаход з пагашанымі фарамі. Калі б яны маргнулі, мне было забаронена падыходзіць да яго. Гэта абазначала б, што за мною сочаць супрацоўнікі КДБ. Але нічога падазронага не было. Аднак я не вытрымаў нервова і пабег. Боб стаяў на тратуары і адчыніў заднія дзверы. Мы паехалі ў напрамку Паканос. Была ўжо трэцяя гадзіна ўначы, калі наша аўтамашына з'ехала з шашы на бакавую дарогу, а праз некалькі хвілін затрымалася перад цяжкай брамай. Вароты хуценька адкрыліся і ўпусцілі нас. Убачылі мы ў вялікі мураваны дом. На першым паверсе мы сустрэліся з ахоўнікамі. Усе мы: Боб, Карл і я пайшлі адпачываць. На калідоры, каля дзвярэй майго пакойчыка мужчына моцнага складу паставіў раскладушку.

— Я буду тут, — усміхнуўся ён. — Так проста, на ўсякі выпадак.

Я не мог, аднак, заснуць. Пасля прывычнага нью-йоркскага шуму загарадская ноч выдавалася падазрона ціхай. Я выпіў некалькі супакойваючых таблетак, але яны не памаглі. Ці змагу я ўвогуле адчуваць сябе бяспечна? А што калі КДБ пачаў пагоню? Так раздумваючы, я не заснуў у гэтую першую ноч на свабодзе. Раніцай, чуць свет, я памыўся, апрануўся і пайшоў у салон выпіць чорную каву. Ноччу прыехаў мой знаёмы амерыканец Берт Джонсан. За кавай мы пачалі абмяркоўваць, што рабіць далей.

Але пра далейшы лёс дыпламата Аркадзя Шаўчэнкі чытайце ў „Ніве" праз тыдзень.

Апрацаваў

ЯНКА ЦЭЛУШЭЦКІ




## ГАРАЧЫЯ САЛАТЫ З БУЛЬБЫ

I

На 4 шклянкі варанай бульбы, нарэзанай кубікамі, трэба ўзяць 1 лыжачку прыправы для супоў „магі", паўшклянкі смятаны, паўшклянкі маянэзу, паўшклянкі пасечанай цыбулі, паўшклянкі дробна пасечанага сэлера, паўшклянкі даволі дробна нарэзаных кіслых ці кансерваваных агуркоў, 2—3 лыжкі дробна пасечанай зялёнай пятрушкі, 2 лыжкі дробна пасечанай зялёнай папрыкі, 2 лыжкі масла ці маргарыну, 2 лыжкі мукі, 2 лыжкі прыправы „кары", паўлыжачкі солі, змеленую чырвоную папрыку для пасыпання.

1. Масла растапіць у каструльцы, спалучыць з мукой і прыправай „кары", мяшаючы, дадаваць паступова 1 шклянку вады з прыправай „магі", давесці да кіпення, тады зняць з агню, астудзіць, перамяшаць са смятанай і соллю.

2. Усыпаць у гародніну зялёную пятрушку, пералажыць усё ў міску, заліць соусам, перамяшаць, пералажыць у каструльку, змазаную алеем, пасыпаць зверху змеленай папрыкай.

3. Запякаць у духоўцы каля паўгадзіны.

Есці салату гарачай з хлебам ці вараным рысам.

Прапорцыя для 4—5 чалавек.

II

На паўтара кілаграма бульбы трэба ўзяць паўкілаграма дробна пасечанай ці змеленай каўбасы, паўшклянкі кіслых ці кансерваваных агуркоў, нарэзаных тоненькімі скрылёчкамі, 2 лыжкі алею, 1 шклянку нарэзанай цыбулі, 1 шклянку пасечанага сэлера, лыжачку прыправы для супоў „магі", 2—3 лыжкі 5-працэнтнага воцату, 2—3 лыжкі нарэзанай зялёнай пятрушкі, 2 крутыя яйкі, 1 лыжачку солі, 1/4 лыжачкі перцу.

1. Вышараваную бульбу зварыць у пасоленай вадзе. Адцадзіць, астудзіць, абабраць, нарэзаць кубікамі.

2. Алей разагрэць на вялікай патэльні, усыпаць каўбасу і смажыць 2 мінуты, тады дадаць цыбулю і сэлер, смажыць на малым агні яшчэ мінут 10.

3. На патэльню з каўбасой, цыбуляй і сэлерам уліць паўтары шклянкі вады з „магі" і воцатам, тушыць 5 мінут. Тады дадаць бульбу, пасаліць, пасыпаць перцам, перамяшаць, моцна падагрэць.

4. Зверху аздобіць агурком і падаваць з хлебам ці бульбай.

Прапорцыя для 6 чалавек.

ГАСПАДЫНЯ

*(Паводле кнігі Кацярыны Паспяшынскай „Якія часы, такая кухня")*

***************************************************

## АПОВЯД САБАКІ БОНІКА ПРА СВАЕ КАНІКУЛЫ Ў ВЁСЦЫ БІСКУПЦЫ ЛІДСКАГА ПАВЕТА,КАЛІ ЗДАРЫЛАСЯ РЭВАЛЮЦЫЯ ДЗЕВЯНОСТА ПЕРШАГА ГОДА АБО ПАДРОБКА ПАД ЯЕ ГАСПАДЫНЮ,ДАНУТУ БІЧЭЛЬ

Лёс у сабакаў сабачы.
Пуста ў людзей за душою.
Мы з гаспадыняй на дачы
марна шукаем спакою.

Зьнікла шляхецкая мужнасьць.
Правіць савецкая раса.
Братніх народаў садружнасьць
зьела сабачае мяса.

Цэлае лета пацею —
нешта шукаю па кучах.
Кажуць, канец Дземяньцею —
зьелі й яго разам з путчам!

Лесам ляціць да Ляжневіч
пах самагонкі, як птушка.
Менскам кіруе Шушкевіч —
вёскай кіруе чакушка.

Морду паклаўшы на лапы,
ціха драмлю да абеда —
кажуць вясковыя бабы,
што заваюоць нас швэды.

Нос не высоўваю з дому —
гэта ў маіх інтарэсах.
Шастаюць цёткі з райкому,
нібы ваўчыцы, па крэсах...

АЛЕСЬ ЧОБАТ

## СЛОН І КУРЫЦА

Яўрэй піша пісьмо брату ў Ізраіль: „У нас усё такое дарагое. Простая курыца — 7 рублёў".

Яўрэя выклікаюць у КДБ і папярэджваюць, што калі ён будзе пісаць такія пісьмы, то няхай крыўдуе на самога сябе.

Спалоханы, ён вяртаецца дамоў і піша брату: „У нас райскае жыццё. Іду па Камароўцы, бачу — вялізны слон за 4 рублі. Навошта, думаю, мне слон, лепш дадам 3 рублі і куплю курыцу".






*Мал. Ігара Варашкевіча.*

## Узрост пакарае каханне

Адзін прафесар падзяліў мужчын і жанчын на групы: жанчынам даў назвы частак свету. Мужчынам — назвы музычных інструментаў.

**Жанчыны:**

ад 16 да 20 год — Азія — дзікая, нецывілізаваная;
ад 20 да 30 год — Афрыка — гарачая, палкая, знойная;
ад 30 да 45 год — Еўропа — хітрая, спрытная, з'езджаная уздоўж і ўпоперак, але спакуслівая і прывабная;
ад 45 да 55 год — Амерыка — спрытная, любіць грошы, на яе рынку з кожным днём прыбліжаецца крызіс, няма прапаноў;
ад 55 да 65 год — Антарктыда — халодная, усімі забыта.

**Мужчыны:**

ад 18 да 25 год — кларнет — іграе без настройкі, сходу;
ад 25 да 40 год — скрыпка — лепшы інструмент на свеце; настройваецца 2—3 мінуты, іграе калі толькі захочаш;
ад 40 да 65 год — віяланчэль — настройваецца ўвесь час, іграе 2—3 мінуты;
ад 55 да 65 год — трамбон — не іграе, а мучыцца;
ад 65 да 75 год — футляр, дзе перахоўваецца інструмент.

Пераклаў
**Ясень**

## АНЕКДОТЫ

* * *

Міхась да Кастуся:
— Вып'ем яшчэ па сто?
— Розум кажа: не трэба, страўнік кажа: можна. Але ж розум мудрэйшы ад страўніка. А мудрэйшы заўсёды ўступае дурнейшаму. Вып'ем!

* * *

— Вы чаму выпіваеце ў рабочы час?
— Пасля работы нельга. Пасля работы я дзяцей выхоўваю.

* * *

— Мой муж так прастудзіўся!
— Скажыце яму, каб ён больш піў і адпачываў.
— Ах, доктар, калі гэта дапамагае, я ўвогуле не разумею, як ён ухітрыўся прастудзіцца.

* * *

— Як спадабалася вам гераіня спектакля?
— Выдатная артыстка, але, па-мойму, велікаватае дэкальтэ.
— І гэта вас раздражняла?
— Мяне — не, аднак мая жонка ўвесь спектакль адымала ў мяне тэатральны бінокль...

* * *

— Чым ты сёння займаўся? — запыталі ў гультая.
— Не абедаў, добра памятаю, праспаў. А вось што зрабіў, чорт яго лысы ведае.

* * *

— П'яны наведвальнік увальваецца ў фотаатэлье:
— К-к-калі ласка... зрабіце мне груп-уп-упавы партрэт...
— З прыемнасцю, спадар. Распалажыцеся, калі ласка, паўкругам.

* * *

Жонка — мужу, які сядзіць за рулём:
— Уключы сігнал павароту, тармазі ды не паварочвай так крута.
— Злітуйся! Твая работа — усміхацца паліцыянтам!

* * *

У Мікалая, у якога хварэла жонка, спыталі:
— Як здароўе вашай жонкі?
— Дзякую, зараз адчувае сябе значна лепш: ужо і лаяцца памаленьку пачынае...

Падборку зрабіў
**Ясень**



## КАСЯК НА „Ф"

**Управа:** 1/ мудрэц, мысліцель, 3/ чалавечыя нечыстасці, гной, 5/ шумны публічны поспех, 7/ свяцільня на палцы.

**Улева:** 2/ заключная частка спаборніцтва, 4/ незвычайная з'ява або выдатны чалавек, 6/ скрынка або чахол на інструмент або прыладу, 8/ страх або хвароба.

**„ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з н-ра 4. Управа:** праўда, промах, плуг, порах, проза, прыклад, пілотка, парсюк, прэнт, пячора, пасаг, план. **Улева:** плод, парода, Парнас, парафія, поезд, пункт, паравоз, пойла, паркан, проса, пячнік, папа,

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Лявон Федарук з Рыбалаў і Лукаш Пацэвіч з Беластока.




**********************************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1992 r. upływa 20 maja 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..
Cena prenumeraty miesięcznej:
- marzec – 15 000 zł.
- kwiecień – 12 000 zł.
- maj – 15 000 zł.
Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.